5 лютага 2016 | № 5 (470)

# Новы час

novychas.by

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

9 772218 214401 10005

**Мінск, Масква, Варшава — агульная справа?**
стар. 6-7

**4 ІП: БАРАЦЬБА ЗА ВЫЖЫВАННЕ**

Пайшоў другі месяц барацьбы індывідуальных прадпрымальнікаў за выжыванне, на мяжу якога іх паставіў указ №222. Якія могуць быць сцэнары развіцця сітуацыі?



**5 БЕЛАРУСЫ НА ЛІНІІ ФРОНТУ: БАБУЛЯ, МАТУЛЯ І НЕМАЎЛЯ**

Хлопчыка, які нарадзіўся на лініі фронту каля Данецку, назвалі ў гонар прадзеда — Максіма Сянкевіча, беларуса з вёскі Шкава Гомельскай вобласці, які прыехаў разам з жонкай на Данбас пасля вайны

**9 МАЛДОЎСКІ ЎРОК**

Як сталася, што Малдова, найбольш прасунутая на шляху еўраінтэграцыі краіна СНД, на вачах ператвараецца ў пуцінскі фарпост?

**11 УСПАМІНЫ. ПЕРШЫЯ САМАСТОЙНЫЯ КРОКІ**

У «Мастацкай літаратуры» я ўпершыню непасрэдна пабачыў і пачуў Пятра Глебку, Кандрата Крапіву, Івана Шамякіна. Глебка прынёс прадмову для першага пасля рэабілітацыі выдання паэзіі Уладзіміра Дубоўкі

# Сам не гам і іншаму не дам

## Можа падацца, што ўлады пачынаюць пазбаўляцца ад «дрэнных актываў»



Сяргей ПУЛЬША

Дзяржкамітэт па маёмасці абвясціў аб продажы на аўкцыёнах і па конкурсе акцый акцыянерных таварыстваў і прадпрыемстваў, што належаць беларускай дзяржаве.

У пералік увайшлі 60 прадпрыемстваў. Сярод іх буйныя ААТ, кшталту «БАТЭ — кіруючая кампанія холдынгу «Аўтакампаненты», «Кіруючая кампанія холдынгу «Гарызонт», «Гомельскі радыёзавод», «Мінскі завод ацяпляльнага абсталявання», «Брэсцкі радыётэхнічны завод» і іншыя.

Асаблівую ўвагу ў гэтым спісе прыцягваюць «Івацэвічдрэў», «Віцебскдрэў», «Магілёўдрэў», «ФанДОК» і «Папяровая фабрыка «Спартак». Гэта тыя прадпрыемствы, на якія дзяржава ў апошнія гады выкінула дзясяткі мільёнаў долараў па праграмах мадэрнізацыі. Пра першыя чатыры «дрэваапрацоўкі» — агульнавядома. Што тычыцца папяровай фабрыкі «Спартак», то ў 2011 годзе, назіраючы за яе мадэрнізацыяй, Аляксандр Лукашэнка персанальна сказаў: «Мы ўбухалі агромністыя грошы сюды, напружваючы ўсю краіну». Калі дзяржава прадае «мадэрнізаваныя» прадпрыемствы, гэта азначае, што агромністыя грошы ўбухваліся дарэмна.

Старшыня Савета рэспублікі Міхаіл Мясніковіч падчас наведвання ААТ «Інтэграл» (цікава ўвогуле, чаго экс-прэм’ера туды занесла? Ён жа ўжо не курыруе прамысловасць?) зрабіў «сенсацыйную заяву». Міхаіл Уладзіміравіч сказаў, што ў Беларусі існуюць прадпрыемствы, «якія ўжо не актуальныя на рынку». «Утрымліваць іх за кошт эфектыўна працуючых прадпрыемстваў не мае сэнсу. Таму з банкруцтва, эканамічнай неплацежаздольнасці не трэба рабіць трагедыю», — цытуе Мясніковіча агенцтва БелТА.

Сапраўды, дзіўна бачыць у эканамічных зводках і афіцыйнай статыстыцы такую графу, як «старты стратных прадпрыемстваў». І яшчэ больш дзіўна бачыць, калі ўзровень «стратаў стратных прадпрыемстваў» параўноўваецца, напрыклад, з паказчыкамі мінулага года. У любым цывілізаваным свеце, калі прадпрыемства ажно год стратнае — яно альбо закрываецца, альбо рэарганізуецца. Навошта ўтрымліваць стратныя прадпрыемствы? Каб павялічваць страты?

Дарэчы, па дадзеных на 1 снежня 2015 года стратнымі былі 20,2% прадпрыемстваў краіны. Пятая частка прамысловага патэнцыялу Беларусі працуе «ў мінус».

Але вернемся да Дзяржкаммаёмасці і Мясніковіча. Першы абвясціў распродаж. Другі — банкруцтва прадпрыемстваў. Абедзве гэтыя ініцыятывы павінны былі б падштурхнуць нас да думкі, што, магчыма, нас чакае хваля прыватызацыі.

Прыватызаваць — гэта не значыць проста прадаць, гэта значыць, знайсці пакупніка, які ўкладзе ў прадпрыемства грошы, магчыма, рэарганізуе яго, магчыма — мадэрнізуе (што з некаторымі ўжо, нібыта, зроблена), і пачне выпускаць канкурэнтаздольную прадукцыю.

Аднак нешта не было чуваць таго, каб для інвестараў ствараліся нейкія новыя ўмовы. Ці хаця б прымаліся захады для забеспячэння іх права ўласнасці. Толькі вельмі рызыкоўны, на мяжы з ідыятызмам, інвестар будзе ўкладаць грошы ў вытворчасць у краіне, дзе ў дзяржавы заўсёды ёсць права «залатой акцыі». Дзе ў любы момант ягонае прадпрыемства




> **Прыватызаваць — гэта не значыць проста прадаць**

могуць адабраць назад без аніякай кампенсацыі выдаткаў і ўкладзеных грошай.

Але, згодна з Індэксам эканамічнай свабоды, які разлічваецца амерыканскім даследчым інстытутам Heritage Foundation і выданнем «The Wall Street Journal» (рэйтынг апублікаваны на сайце Heritage Foundation), Беларусь апусцілася на 157-е месца, патрапіўшы ў групу краін з «задушанымі эканомікамі». Калі ўжо на другім канцы зямнога шара ўсё ведаюць пра нашы ўмовы, што казаць пра бліжэйшых суседзяў?

У гэтых варунках можна было б палічыць, што чыноўнікі гатуюць глебу для новага «вялікага падзелу», асабліва ўлічваючы, што «на таргі» высоўваюцца, як зазначалася, нядаўна мадэрнізаваныя прадпрыемствы. Хтосьці, верагодна, хацеў бы адхапіць ад беларускага эканамічнага пірага. Ну, канешне, калі гэтыя прадпрыемствы сапраўды мадэрнізаваліся.

Але… падзелу не будзе. Дзяржкаммаёмасці выстаўляе на таргі толькі 25%+1 акцый «флагманаў» — БАТЭ і «Гарызонту», і тое для стратэгічных інвестараў. Што тычыцца «мадэрнізаваных», то дзяржава пазбаўляецца «лішкаў» акцый, пакідаючы за сабой блакуючыя 50%. Напрыклад, яна валодае 99,99% акцый папяровага «Спартака», а прадае 49,99%. Тая ж сітуацыя і з дрэваапрацоўкай: «Магілёўдрэў» — у дзяржавы 98,58% акцый, прадае яна 48,58%. «ФанДОК» — у наяўнасці 99,9%, прадаецца 49,9%. І гэтак далей.

Карацей, гэта ніякая не прыватызацыя. Проста скончыліся грошы, і іх спрабуюць здабыць такім арыгінальным чынам: нібыта прадаць палову прадпрыемства, а насамрэч, усё пакінуць сабе.

Улады зноў спрабуюць гуляць у «прыватызацыю без прыватызацыі». Але наўрад ці такая стратэгія будзе мець поспех.

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### БАРАНАВІЧЫ: Суд апраўдаў грамадскіх актывістаў




**Суддзя суда Баранавіцкага раёна Юльяна Шчэрба не ўбачыла ў дзеяннях Рыгора Грыка і Аляксандра Вайцешыка правапарушэння.**

На думку Аляксандра Вайцешыка, гэта прававое рашэнне, а для яго важна, што ў адрас супрацоўнікаў Баранавіцкага ГАУС будзе вынесена прыватнае вызначэнне. Як аказалася, участковы інспектар Дзмітрый Герман не толькі склаў непісьменны пратакол, але і паводзіў сябе нетактычна і груба ў судзе, на што яму не раз было ўказана суддзёй і адвакатам.

На думку праваабаронцы Сяргея Гоўшы, гэтага працэсу наогул не павінна было быць. Вінаватыя не актывісты, а загадчыца крамы Вольга Борыс і адміністрацыя крамы «Mart Inn», якія выкладаюць на паліцы пратэрмінаваныя прадукты.

Нагадаем, абвінавачанне ў дробным хуліганстве Рыгору Грыку і Аляксандру Вайцешыку было выстаўлена пасля таго, як яны прыйшлі ў краму «Mart Inn» і выявілі пратэрмінаваныя прадукты. Яны паведамілі пра гэта ў розныя інстанцыі, дзе факты пацвердзіліся, а загадчыца крамы Вольга Борыс была аштрафавана. Тады яна вырашыла адпомсціць і звярнулася ў міліцыю. На актывістаў, як высветлілася ў судзе, участковым Дзмітрыем Германам без іх ведама быў складзены пратакол за хуліганства.

**spring96.org**

### ГЛЫБОКАЕ. Дворнік супраць ЖКГ



**Судовая калегія Віцебскага абласнога суда пакінула без задавальнення касацыйную скаргу Глыбоцкай ЖКГ, якая аспрэчвала рашэнне суда адносна аднаўлення на працы Аксаны Мушкат.**

Аксана Мушкат, якая вымушаная была звярнуцца ў суд, каб дамагчыся справядлівасці, з'яўляецца інвалідам. Інваліднасць па зроку яна займела, працуючы дворнічыхай у Глыбоцкай ЖКГ. Жанчына запатрабавала больш лёгкіх умоваў працы, і гэта не спадабалася начальству. Стаўшы для кіраўніка арганізацыі непажаданай працаўніцай, Аксана Мушкат адчула на сабе розныя метады ўціску. Працяглы канфлікт працадаўцы і дворнічыхі ў выніку скончыўся звальненнем.

Але жанчына пачала змагацца за сваё аднаўленне на працы. У выніку Глыбоцкі раённы суд прызнаў звальненне незаконным. Акрамя таго, суд абавязаў жыллёва-камунальную гаспадарку выплаціць Мушкат грашовую кампенсацыю ў памеры больш за восем мільёнаў рублёў.

Не пагадзіўшыся з рашэннем Глыбоцкага раённага суда, кіраўніцтва ЖКГ падало касацыйную скаргу ў Віцебскі абласны суд. Суд, аднак, у гэтым выпадку кіраваўся літарай закону.

Сама Аксана Мушкат адзначае, што дзеля дасягнення справядлівасці ёй спатрэбілася прыкласці шмат высілкаў і запасціся цярплівасцю, але цвёрдай упэўненасці ў нармалізацыі адносінаў да яе асобы з боку кіраўніцтва пакуль няма.

**Паводле сайта «Віцебская вясна»**

### БРЭСТ. Гарвыканкам не дазволіў пікеты салідарнасці з ІП



**Актывісты Брэсцкай абласной арганізацыі АГП падалі заяўкі на правядзенне 14 пікетаў, аднак улады іх забаранілі.**

Як паведаміў намеснік старшыні АГП Уладзімір Вуек, арганізатары пікетаў меркавалі правесці масавыя мерапрыемствы каля буйных гандлёвых цэнтраў горада, а таксама побач з кінатэатрам «Беларусь», у парку воінаў-інтэрнацыяналістаў і на стадыёне «Лакаматыў» (згаданыя парк і стадыён адмыслова пазначаны ў рашэнні гарвыканкама, дзе можна ладзіць падобныя акцыі). Удзельнікі пікетаванняў збіраліся выказаць сваю падтрымку індывідуальным прадпрымальнікам, прыцягнуць увагу грамадзян да праблемы ціску на прадстаўнікоў малога бізнесу і неабходнасці правядзення рынкавых рэформ.

Брэсцкі гарвыканкам забараніў пікеты, спаслаўшыся на тое, што большасць з іх запланаваныя ў месцах, дзе не прадугледжана правядзенне масавых мерапрыемстваў. Што тычыцца стадыёна «Лакаматыў» і парка воінаў-інтэрнацыяналістаў, дык там акцыі не дазволеныя з прычыны адсутнасці дамоваў з медыкамі, міліцыяй і камунальнымі службамі.

«Мы лічым, што такім чынам у чарговы раз парушана наша канстытуцыйнае права на мірныя сходы, — распавёў Уладзімір Вуек. — Што тычыцца дамоваў, дык мы як падаткаплацельшчыкі ўжо даўно аплацілі працу і міліцыі, і службы аховы здароўя, і камунальнікаў. Таму забаронай пікетаў улады прадэманстравалі, што іх не цікавяць праблемы прадпрымальнікаў і развіццё эканомікі ў нашай краіне, і яны грэбуюць пры гэтым грамадзянскімі і палітычнымі правамі людзей».

**spring96.org**

# Дзень Волі — 2016

**Адбылося першае пасяджэнне аргкамітэта аб святкаванні Дня Волі 25 сакавіка.**

Папярэдне ўдзельнікі сустрэчы дамовіліся аб падачы заяўкі, у якой будзе паказанае шэсце ад Акадэміі навук да помніка Янку Купалу.

«Дзень Волі — гэта свята беларускага духу. Важна адзначаць яго як мага шырэй», — заявіў намеснік старшыні руху «За Свабоду» Алесь Лагвінец, які прэзентаваў рух у аргкамітэце і плануе стаць заяўнікам акцыі.

Па яго словах, «гэты год як ніколі дае пераканаўчыя аргументы на карысць таго, што свабода і незалежнасць з'яўляюцца гарантыяй дабрабыту».

Аргкамітэт заклікаў беларусаў як мага шырэй далучацца да святкавання Дня Волі.

У заяўцы будзе адзначаны збор 25 сакавіка ля Акадэміі навук а 18.00, пасля збору кароткі мітынг і шэсце да помніка Янку Купалу, ускладанне кветак і таксама мітынг, распавёў старшыня партыі БНФ Аляксей Янукевіч.

У пасяджэнні аргкамітэта акрамя Алеся Лагвінца і Аляксея Янукевіча ўзялі ўдзел экс-кандыдат у прэзідэнты Мікалай Статкевіч, старшыня партыі АГП Анатоль Лябедзька, старшыня Руху салідарнасці «Разам» Вячаслаў Сіўчык. Наступнае пасяджэнне аргкамітэта запланаванае на 9 лютага

**рух.by**

# Ліст на волю Жамчужнага

**Палітвязень Міхаіл Жамчужны даслаў ліст з турмы на волю віцебскаму праваабаронцу Леаніду Свецiку.**

У лісце Міхаіл Жамчужны распавядае пра ранейшыя ўмовы ўтрымання ў СІЗА і цяперашнія ў калоніі, а таксама дзякуе ўсім за падтрымку і дапамогу.

«Найперш Міхаіл падзякаваў сябрам, што яму ў калонію перасланi неабходныя рэчы, якія ён прасіў, — распавядае Леанід Свецік. — Гэта радыёпрыёмнік, папера, каб пісаць лісты, гадзіннік на руку. Мы збіралі ў Віцебску грошы ўсе разам — і праваабаронцы, і журналісты, і нават дапамог адзін бізнесмен. Праўда, радыёпрыёмнік, наколькі я зразумеў, не дазволілі перадаць, хоць па заканадаўству для асуджаных гэта дазволеная рэч».

Таксама ў лісце Міхаіл Жамчужны ўзгадвае, як на яго ціснулі псіхалагічна падчас знаходжання ў СІЗА на стадыі следства.

«Традыцыйна палітзняволеных змяшчалі ў псіхіятрычныя лякарні, — напісаў ён. — Робіцца гэта для таго, каб палітвязняў (звычайна — інтэлектуальных людзей) пазбаўляць магчымасці мысліць, мець зносіны з адэкватнымі людзьмі і абараняцца ад сфальсіфікаваных абвінавачванняў і рэпрэсій. Хто ўсур'ёз будзе ўспрымаць скаргі ад пацыента псіхіятрычнай лякарні? У першыя дні майго арышту метады псіхалагічнага ўздзеяння прымяняліся і ў адносінах да мяне. У ІВС, дзе я ўтрымліваўся першыя тры дні пасля арышту, да мяне падсадзілі нейкага непаголенага суб'екта, які ў дасканаласці валодаў турэмным слэнгам. Але, мяркуючы па яго пытаннях да мяне, ён добра ведаў пра маё абвінавачванне і спрабаваў па «гарачых слядах» высветліць падрабязнасці справы, тых, з кім я «працаваў», месцы збыту інфармацыі і крыніцы фінансавання. Гэтыя дзеянні КДБ заранёй былі правальнымі, таму што ўсё гэта я праходзіў па першаму абвінавачванню. Пасля гэтага я быў змешчаны ў камеру СІЗА, дзе з пад'ёму да адбою двое зняволеных на поўную моц голасу адначасова распавядалі пра свае аўтабіяграфіі з падрабязнасцямі. У такіх умовах ні пісаць, ні думаць было немагчыма. Праз тры дні такіх катаванняў я зразумеў, што можна пазбавіцца розуму, а таму папрасіў выслаць мне бярушы. Да гэтага проста даводзілася затыкаць вушы пальцамі. Бярушы былі высланы, але мне іх не выдалі, бо, маўляў, гэта забаронена медыкамі СІЗА. Давялося зрабіць бярушы самому з паралону… Так я на працягу доўгага часу захоўваў свае мазгі ад знішчэння».

Міхаіл Жамчужны дадае ў лісце, што ў калоніі з «ворагамі» яму «не сумна».

«Мае стасункі з навакольнымі людзьмі і з адміністрацыяй я баюся сурочыць, — піша палітвязень. — Лічу іх ідэальнымі. Мне пашэнціла з высокапастаўленымі кваліфікаванымі «ворагамі». З імі не сумна. Паважаю дастойных супернікаў і дзякуй ім за навуку».

«Не ведаю, як кваліфікаваць гэтыя словы, але мне падаецца, што Жамчужны стараецца нешта пісаць паміж радкоў, — каментуе Леанід Свецік. — Відавочна, што нейкае супрацьстаянне паміж Міхаілам і адміністрацыяй калоніі адбываецца, калі ён ужо ўзгадвае «кваліфікаваных «ворагаў».

Напрыканцы Міхаіл Жамчужны яшчэ раз падзякаваў за падтрымку і пажадаў «поспехаў усім у жыцці і дзейнасці».

Нагадаем, заснавальнік «Платформ інавэйшн» Міхаіл Жамчужны ў ліпені 2015 года быў асуджаны Віцебскім абласным судом на 6 гадоў пазбаўлення волі ў калоніі строгага рэжыму. 23 кастрычніка судовая калегія па крымінальных справах Вярхоўнага суда разгледзела касацыйную скаргу і прызначыла Жамчужнаму больш строгае пакаранне — шэсць з паловай гадоў пазбаўлення волі.

Беларускімі праваабаронцамі Міхаіл Жамчужны прызнаны палітычным зняволеным.

**palitviazni.info**

# Апошнія дні Каліноўскага

**«Белсат» зняў фільм пра апошнія дні Кастуся Каліноўскага. Прэм'ера — 20 сакавіка.**

Шмат хто ў нашы часы прывык глядзець на Кастуся Каліноўскага як на бронзавы бюст, на сухі аповед у кнізе, а гэта — жывы чалавек са сваім сумленнем ды поглядамі, адзначыў рэжысёр дакументальнай стужкі Валеры Мазынскі.

Дакументальны фільм «Каліноўскі. Апошнія дні» выйдзе ў эфір напярэдадні гадавіны смерці нацыянальнага героя беларусаў.

Кінааповед мае надзвычай арыгінальную форму — апошнія дні Кастуся Каліноўскага перад смяротным пакараннем рэканструюе тэатральная трупа, якая спрабуе асэнсаваць для сябе асобу паўстанцкага лідара, звяртаючыся да дакументаў эпохі ды сведчанняў сучаснікаў Каліноўскага.

Ролю кіраўніка паўстання 1863 года выканаў у фільме актор Купалаўскага тэатра Раман Падаляка, каханую Каліноўскага — Марылю Ямант — згуляла Ганна Харланчук-Южакова. Сцэнар да фільму напісаў малады гісторык і літаратар Зміцер Кузменка, прыкаваны да інваліднага вазка. Ён не можа гаварыць, але шмат піша, з'яўляецца аўтарам кнігі вершаў.

Кастусь Каліноўскі некалькі месяцаў хаваўся ў Вільні пад псеўданімам Ігнат Вітажэнец. У гэтыя часы ў Вільні адбываліся публічныя пакаранні паўстанцаў — змагароў за волю для свайго краю. Каліноўскі часам прыходзіў на экзекуцыі ды стаяў у натоўпе, каб хоць сімвалічна развітацца са сваімі паплечнікамі.

«Кастусь Каліноўскі мог выратаваць сабе жыццё за мяжою, як гэта зрабілі іншыя, але не зрабіў гэтага. На першым месцы ў Кастуся Каліноўскага была адказнасць перад паўстанцамі, якіх расстралялі, павешалі, выслалі ў Сібір… Тая самаахвярнасць у імя ідэі, якую арасіла кроў яго паплечнікаў, не дала яму права схавацца. Гэта актуальны момант і для сённяшняй беларускай апазіцыі», — заўважыў спадар Мазынскі.

Рэжысёр дадаў, што хацеў прыблізіць постаць Кастуся Каліноўскага для сябе, але не толькі — гэтаксама для тых людзей, якія толькі пачалі адкрываць для сябе беларушчыну.

**belsat.eu**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Клопат, якога мы не разумеем

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Калі з краіны з'язджае кіраўнік — чакай непапулярных захадаў. Пра гэта ўжо неаднаразова пісалася і казалася. Гэты раз таксама не стаў выключэннем.**




У Сочы Лукашэнка адляцеў на дзень: сустрэцца са старшынёй урада Расіі Дзмітрыем Мядзведзевым. А яшчэ кіраўнік Беларусі, згодна з паведамленнем ягонай прэс-службы, «апрабаваў гарналыжныя трасы». Яму так спадабалася, што ён «прыняў рашэнне застацца ў Сочы на кароткачасовы адпачынак». Колькі будзе доўжыцца кароткі час, сціпла не паведамляецца.

Як толькі пра гэта даведаліся чыноўнікі, яны адразу ж пачалі бурную дзейнасць па чарговым выцісканні грошай з насельніцтва.

Гэтым разам пад раздачу патрапілі аматары аўто. Урад павысіў стаўкі аўтамабільнага ўтылізацыйнага збору. І не абы як, а адразу ў восем разоў.

Зараз за ўвоз аўтамабіля, не старэйшага за тры гады, незалежна ад аб'ёму рухавіка для асабістага карыстання грамадзянамі з тэрыторыі дзяржаў ЕАЭС неабходна будзе заплаціць 4,95 мільёна рублёў. Калі аўтамабіль старэйшы за тры гады — 7,425 мільёна рублёў.

Прычым, урад не саромеючыся кажа: так, гэта спроба вытрасці грошы з заможных. Як патлумачыла прэс-служба Саўміна, гэты заход найперш дазволіць «павялічыць паступленне грашовых сродкаў у рэспубліканскі бюджэт», а ўжо потым «дасць магчымасць удакладніць і спрасціць дзейнае заканадаўства Рэспублікі Беларусь, звязанае з выплатай утылізацыйнага збору».

Як павышэнне збору ў 8 (восем!) разоў «удакладняе і спрашчае дзейснае заканадаўства» — пра гэта маўчок. Пэўна, чым прасцей напампаваць бюджэт і выплаціць заробкі чыноўнікам — тым прасцей заканадаўства.

Увогуле, утылізацыйны збор на аўто, як і іншыя «забараняльныя» падаткі ў гэтай сферы — рэч дзіўная. Саўмін, не саромеючыся, кажа: пастанова прынятая з мэтай «па ўрэгуляванні ўвозу транспартных сродкаў з дзяржаў — сябраў ЕАЭС». Зразумела, калі такое робіць Расія ці Украіна: тым самым яны абараняюць свой аўтапром. Але што рэгуляваць у нас, калі ў нас няма сваёй вытворчасці легкавікоў? У нас усе машыны — іншамаркі і ўвозяцца з-за межаў краіны! Які рынак мы рэгулюем і абараняем?

Ніякі. Таму і падвышэнне ўтылізацыйнага збору — гэта яшчэ адзін «параўнальна сумленны спосаб ад'ёму грошай у насельніцтва», якімі так знакаміты быў Астап Бэндэр.

Ёсць і радасныя навіны тыдня. Самая радасная — беларусаў аніякая зараза не бярэ. Як паведамлююць СМІ, ва Украіне афіцыйна пацверджана 155 выпадкаў смерці, звязаных са свіным грыпам, у Расіі — 126. Як мінімум два ачагі гэтай хваробы зарэгістраваныя ў Польшчы. У нас грып H1N1 выяўлены прыкладна ў 40 чалавек. Але выпадкаў гібелі не зафіксавана, паведаміла БелаПАН галоўны эпідэміёлаг Міністэрства аховы здароўя Іна Карабан.

Медыкі ацэньваюць сітуацыю з распаўсюджваннем грыпу як спакойную, адзначыла спецыяліст, і тлумачаць гэта перш за ўсё высокай удзельнай вагой жыхароў Беларусі, якія зрабілі прышчэпкі, — прыкладна 40%. Чым больш прышчэпленых, падкрэсліла Карабан, тым мацнейшы калектыўны імунітэт, дзякуючы якому не хварэюць і непрышчэпленыя людзі.

Гэта ўсё таму, што хварэць у Беларусі — занадта дорага. Калі няма чым плаціць за лячэнне, людзі і хварэць не будуць — такая логіка ўлады. І чыноўнікі ўсяляк гэта падтрымліваюць, зразумела ж, клапоцячыся пра здароўе сваіх грамадзянаў. Напрыклад, 1 лютага Брэсцкі гарвыканкам забараніў пікет супраць павышэння цэн на медыцынскія паслугі.

Як паведаміла БелаПАН старшыня гарадской арганізацыі Беларускай партыі левых «Справядлівы свет» Людміла Дзянісенка, мэтай акцыі было прыцягнуць увагу да пастановы Мінздароўя, на падставе якой з 7 студзеня павышаныя тарыфы на паслугі па дыягнастыцы, прафілактычным і абавязковым медыцынскім аглядах грамадзян. Пастанова, на думку заяўнікаў, супярэчыць Канстытуцыі, артыкулу 45 якой гарантуе грамадзянам права на ахову здароўя, уключаючы бясплатнае лячэнне ў дзяржаўных установах аховы здароўя.

Мясцовыя ўлады забаранілі акцыю, бо ў заяўленым месцы ў цэнтры горада правядзенне падобных мерапрыемстваў «не прадугледжана».

Так што беларусы будуць яшчэ менш хварэць.

Самае дзіўнае, што пры такой любові да народа нашы чыноўнікі застаюцца ў самоце. Яны клапоцяцца і пра здароўе беларусаў, і пра навакольнае асяроддзе, і гэтак далей — а іх усё роўна ніхто не любіць. Прыкра і сумна.

### У адным з раёнаў Мінска бацькам у школе прапанавалі зрабіць разам з дзецьмі «валянцінкі» для дзяржаўных дзеячаў

Таму ў адным з раёнаў Мінска бацькам прапанавалі зрабіць разам з дзецьмі «валянцінкі» для дзяржаўных дзеячаў. Прапанаваны спіс асобаў для «напісання валянцінак кумірам» апублікаваў у сацыяльнай сетцы Фэйсбук бацька аднаго з школьнікаў, Кастусь Лісецкі, а СМІ гэты спіс растыражавалі. Прычым, Лісецкі ў каментары «Радыё Свабода» адзначыў, што гэта не фэйк, спіс яму даслала класная кіраўніца, і больш за тое, гэта будзе «раённы конкурс валянцінак».

Зразумела, першым у спісе ідзе Лукашэнка Аляксандр Рыгоравіч. Топ-5 самых самотных і абдзеленых ласкай чыноўнікаў: прэм'ер Андрэй Кабякоў, ягоная намесніца Наталля Качанава, кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта Аляксандр Косінец і ягоны намеснік Ігар Бузоўскі, і пяты чамусьці — памочнік Лукашэнкі па пытаннях фізкультуры, спорту і турызму Максім Рыжанкоў.

У дзясятку адзінокіх сэрцаў патрапілі Міхаіл Мясніковіч, Лідзія Ярмошына і міністр адукацыі Міхаіл Журавкоў. Міністр працы Марыяна Шчоткіна на 11-м месцы, намесніца міністра культуры Ірына Дрыга, крыху самотнейшая за міністра інфармацыі Лілію Ананіч — 14 і 15 месцы адпаведна.

Мужыкі, 14-га лютага вельмі хутка! Пашкадуйце хаця б жанчынак ва ўладзе! Дашліце ім валянцінку!

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Наталля Крывашэй

**Гомельская журналістка, сябра ГА «БАЖ» накіравала скаргу ў Камітэт ААН па правах чалавека з прычыны парушэння яе права на атрыманне і распаўсюд інфармацыі.**



За 2015 год раённыя суды Гомельскай вобласці штрафавалі яе чатыры разы за так званы «выраб прадукцыі СМІ» без акрэдытацыі. Агулам сума штрафаў склала 24,3 мільёна рублёў. Крывашэй выкарыстала ўсе магчымыя ступені судовай абароны і вырашыла абараняць свае правы на міжнародным узроўні.

Інтарэсы Наталлі Крывашэй у Камітэце ААН прадстаўляе юрыст, праваабаронца Леанід Судаленка. Ён зазначае, што справа фрылансера выявіла шэраг супярэчнасцяў паміж нацыянальным заканадаўствам і ратыфікаванымі міжнароднымі дамовамі Беларусі, бо нацыянальны закон аб СМІ празмерна абмяжоўвае саму сутнасць права на збор і распаўсюд інфармацыі.

«У мяне няма сумневу ў тым, што ў справе Наталлі Крывашэй міжнародныя эксперты знойдуць парушэнне яе права на атрыманне і распаўсюд інфармацыі. Міліцыя, якая складае адміністрацыйныя пратаколы, і суды, якія выносяць астранамічныя штрафы, нічога не кажуць наконт праўдзівасці пададзеных фрылансерам матэрыялаў, а толькі цвердзяць, што збіраць і распаўсюджваць інфармацыю забаронена», — лічыць юрыст.

Раней падобныя скаргі накіравалі ў Камітэт ААН яшчэ два гомельскія журналісты-фрылансеры — Мікола Бянько і Кастусь Жукоўскі.

## Наталля Качанава

**Намесніца прэм'ер-міністра выказала меркаванне, што медыкі «як працуюць, так і зарабляюць».**



Наталля Качанава на калегіі Міністэрства аховы здароўя адзначыла, што «малады чалавек, які прыходзіць вучыцца ў медыцынскую ВНУ, наўрад ці разлічвае атрымліваць велізарную зарплату». «Калі чалавек прыняў для сябе рашэнне ісці вучыцца ў няпросты ВНУ, значыць, прыняў рашэнне працаваць на карысць людзей, на карысць народа. З гэтага пункту гледжання і трэба рыхтаваць будучых медыкаў», — сказала Наталля Качанава.

Між тым, паводле дадзеных, агучаных на той жа калегіі, на пачатак 2016 года колькасць работнікаў з вышэйшай медыцынскай адукацыяй у краіне складаў 50 347 чалавек. А практыкуючых лекараў, тых, хто непасрэдна аказвае медыцынскую дапамогу насельніцтву, на трацін менш — 36 485. Таму медыкі вымушаныя працаваць на 1,2 — 1,5 стаўкі. І нават з улікам гэтага сярэдняя зарплата ўрачоў у снежні 2015 года склала крыху больш за 6 мільёнаў рублёў — $300 па сённяшнім курсе.

## Вера Лапко

**Магчыма, мы з'яўляемся сведкамі нараджэння новай зоркі тэніса.**



17-гадовая беларуска Вера Лапко выйграла юніёрскі Australian Open. У вырашальным матчы яна перамагла славачку Тэрэзу Міхалікову — 6:3, 6:4.

Інтэнсіўная барацьба праходзіла па ўсім корце. Дзяўчыны прадэманстравалі агрэсіўны тэніс і змагаліся за кожны бал.

«Я была вельмі ўсхваляваная, калі Тэрэза стартавала ў другім сэце. Але цяпер я проста шчаслівая і не ведаю, што яшчэ дадаць. Я проста атрымліваю асалоду ад першай у кар'еры перамогі на турніры серыі «Вялікага шлема», — сказала пасля паядынку Вера.

Лапко стала другой тэнісісткай з Беларусі, якой удалося заваяваць аўстралійскі Мельбурн у юніёрскім узросце. У 2005 годзе тут першынствавала Вікторыя Азаранка.

З Мельбурна Лапко выправіцца ў Квебек, дзе далучыцца да іншых чальцоў беларускай зборнай: Вікторыі Азаранкі, Вольгі Гаварцовай і Аляксандры Сасновіч. 6 і 7 лютага ім трэба будзе згуляць матч першага круга II Сусветнай групы Кубка Федэрацый супраць канадскіх тэнісістак.


Фота www.nn.by

# ІП: барацьба за выжыванне

Юрась ДУБІНА

**Пайшоў другі месяц барацьбы індывідуальных прадпрымальнікаў за выжыванне, на мяжу якога іх паставіў указ №222. Што сёння адбываецца на рынках Беларусі? Якія настроі пераважаюць у прадпрымальніцкім асяродку? Якія могуць быць сцэнары развіцця сітуацыі?**

### Форум, мітынг, перамовы

Фактычна ўлады самі справакавалі нявыплату арэнды ды падаткаў у бюджэт, не даўшы РГА «Перспектыва» сабраць чарговы Форум прадпрымальнікаў 25 студзеня. Прадпрымальнікі спадзяваліся на вырашэнне праблемы да гэтага часу, аднак «Перспектыве» не ўдалося знайсці памяшканне ў Мінску. Таму форум прайшоў толькі 1 лютага ў гасцініцы «Пекін». Аднак час сышоў, і большасць прадпрымальнікаў не заплацілі ні арэнду, ні падаткі і за люты.

Па ацэнках прадпрымальнікаў, на форум з'ехаліся больш за 2 тысячы ІП з 41 аднаго горада Беларусі. Калі ў студзені не працавалі каля 90% прадпрымальнікаў, якія гандлююць таварамі легпрама, то ў лютым на працу не выйшлі 80% ІП. Каля 20% прадпрымальнікаў працуюць на рынках, але іх сертыфікаты выклікаюць сумнеў нават у калег па прадпрымальніцкім цэху.

«Раней індывідуальныя прадпрымальнікі і гандляры на рынках маглі гандляваць таварам без таварасуправаджальных дакументаў, без накладных, без сертыфікатаў, плацячы адзіны падатак, плюс фіксаваны падатак на дабаўленую вартасць. Такая норма ўведзеная яшчэ ў 1990-я гады. А ўказ №222 змяніў правілы гульні: адмяніў для ІП ільготы — працаваць без дакументаў, і цяпер яны мусяць працаваць, як і ўсе суб'екты гаспадарання, маючы на руках усе таварасуправаджальныя дакументы», — тлумачыць сутнасць праблемы кіраўнік Асацыяцыі малога і сярэдняга прадпрымальніцтва Сяргей Балыкін.

Патрабаванні прадпрымальнікаў за месяц крыху змяніліся: да ранейшых пунктаў — адмяніць указ № 222, а таксама некаторыя палажэнні ўказа № 48, якія тычацца адміністрацыйнай адказнасці ІП за парушэнне патрабаванняў тэхнічных рэгламентаў МС і Еўразійскага эканамічнага саюза, — дадалося новае — сустрэча з Аляксандрам Лукашэнкам.

«Ёсць мясцовыя ўлады, якія адэкватна рэагуюць на праблемы ІП, — сказаў лідар РГА «Перспектыва» Анатоль Шумчанка. — Але ўсе пытанні можа вырашыць толькі кіраўнік краіны. Мы хочам атрымаць магчымасць працаваць, іншых мэтаў мы не маем. Толькі той, хто падпісаў указ № 222, мае права яго адмяніць. Мы, прадпрымальнікі, заклікаем яго зрабіць працу над памылкамі. Цяпер слова за прэзідэнтам».

Між тым, Аляксандр Лукашэнка праігнараваў запрашэнне на Форум прадпрымальнікаў. Замест кіраўніка дзяржавы аддуваўся выканаўца абавязкаў дырэктара дэпартамента па прадпрымальніцтве пры Міністэрстве эканомікі Пётр Арушаньянц. Чыноўнік прапанаваў ІП сустрэцца на гэтым тыдні ў Мінэканомікі, каб абмеркаваць праблемы, якія ўжо насьпелі.

Уключэнне старшыні РГА «Перспектыва» Анатоля Шумчанкі ў экспертна-кансультацыйны савет пры Мінэканоміку можна лічыць адным з вынікаў форуму. Таксама РГА «Перспектыва» накіравала ў Мінгарвыканкам заяўку на правядзенне мітынгу 15 лютага. Вось і ўсё, чаго пакуль дамагліся.

Але Шумчанка лічыць, што вынікі добрыя: «Ужо ёсць дакладная інфармацыя пра тое, што пра наш форум і нашы прапановы было дакладзена на «самы верх». Наша прапанова аб перамовах знайшла падтрымку ва ўладзе. Ужо на гэтым тыдні адбудзецца працоўная група па вырашэнні нашага пытання, як таго патрабавала «Перспектыва». Мы па-ранейшаму перакананыя, што разам з іншымі рэжымамі падаткаабкладання ІП павінна быць магчымасць працы па патэнту — па прынцыпе «заплаціў і забыўся». Думаю, яны не захочуць даводзіць сітуацыю да мітынгу і паспрабуюць вырашыць праблему да 15 лютага. «Перспектыва» да перамоваў гатовая!»

### Адмяніць ці зрабіць нікчэмным

«ІП увесь студзень не працавалі і ладзілі стыхійныя акцыі пратэсту ў рэгіёнах. Ці змянілі пратэсты сітуацыю вакол указа №222? Улада стаіць намёртва, — кажа прадпрымальнік са Светлагорска Анатоль Змітровіч. — Але бачныя зрухі. Па шавяленні ў стане вертыкалі відаць, што такое становішча рэчаў далей працягвацца не можа. Калі ў студзені нявыхад прадпрымальнікаў на працу можна было спісаць на «навагодне-калядныя вакацыі» ці «адпачынкі», то ў лютым такія тлумачэнні не пракацяць».

Прадпрымальнік лічыць, што за мінулы месяц істотна змяніліся і настроі ў прадпрымальніцкім асяродку: «Цяпер пачалася фаза актыўнага пратэсту. На маю думку, фазу актыўнага пратэсту трэба падтрымаць, але так, каб з колькаснага ён перарос у якасны. Калі ўлада намёртва ўчапілася ва ўказ №222, мы павінны зрабіць так, каб гэты ўказ стаў дробным нязначным дакументам. Мы павінны трансфармаваць пратэстныя акцыі ў іншыя пратэсты. І мы ўжо рыхтуем у рамках прававога поля шэраг дзеянняў».

Анатоль Змітровіч агучыў тры ініцыятывы, з якімі прадпрымальнікі мусяць выступіць бліжэйшым часам:

— Першае, мы рыхтуем зварот да беларускага народа, які павінен разумець, чаму мы не працуем. Бо прапаганда ўжо пачынае дзейнічаць: нібыта была дамова з прэзідэнтам, якую індывідуальныя прадпрымальнікі адмаўляюцца выконваць. Мы павінны растлумачыць народу, што ж на самай справе адбываецца. Народ спрабуе закупіцца танней, але не можа: рынкі зачыненыя. Інфармацыйнае поле павінна стаць нашым — менавіта ў тым палягае залог нашага поспеху.

Другое, мы звяртаемся ў Еўразійскую эканамічную камісію з просьбай растлумачыць, чаму РБ указам №48 па тэхнічным рэгламенце парушае заканадаўчую базу Мытнага саюза, чаму яна падмяняе паняцці. Прадстаўнік амбасады Расіі, які прысутнічаў на форуме, не ў курсе, што такое тэхнічны рэгламент і якія суб'екты гаспадарання павінны мець сертыфікаты.

Трэцяе, мы збіраемся звярнуцца ў Еўрапарламент з просьбай правесці расследаванне — калі, каму і ў якіх аб'ёмах выдзяляліся гранты беларускаму ўраду на развіццё малога бізнесу. Працавалі цэлыя праграмы. На распрацоўку закона аб прыватна-дзяржаўным партнёрстве выдзелены 1 мільён 80 тысяч еўра, законапраект пісаўся тры гады. А вось нікому не патрэбны ўказ №222 зрабілі за тры тыдні.

На развіццё рэгіянальнага бізнесу, на развіццё дзяржаўных праграм развіцця бізнесу таксама вылучаліся сродкі — куды яны дзеліся? І чаму ў Беларусі пагоршыліся ўмовы вядзення бізнесу?

Больш за тое, мы павінны ўвязаць просьбу беларускага кіраўніцтва да МВФ аб выдзяленні крэдыту з тым, што дзяржава, не вычарпаўшы ўнутраныя рэзервы, адмаўляючыся ад падаткаў ІП, просіць крэдыт. Трэба ўвязаць выдачу крэдыту МВФ з магчымасцямі індывідуальных прадпрымальнікаў плаціць падаткі, ад якіх адмаўляецца дзяржава, — падкрэсліў Анатоль Змітровіч.

Прапановы вартыя ўвагі, толькі ці прынясуць яны плён? Еўразійская эканамічная камісія ды Еўрапарламент уяўляюць сабой непаваротлівыя бюракратычныя машыны, якія вельмі павольна варушацца, таму нікому не вядома, колькі часу зойме разгляд праблемаў ды прыняцце канкрэтных рашэнняў. Ці дажывуць індывідуальныя прадпрымальнікі да таго светлага часу?

### Тры сцэнары

Кіраўнік Асацыяцыі малога і сярэдняга прадпрымальніцтва Сяргей Балыкін бачыць тры магчымыя сцэнары развязкі праблемы. Прычым адзін з іх — абсалютна фантастычны, на ягоную думку.

— Першы сцэнар — ніхто нічога не мяняе. Нічога не вядома нават пра намеры мяняць указ №222. Індывідуальныя прадпрымальнікі прыстасоўваюцца да сітуацыі, частка з іх паступова сыходзіць. Гэта найбольш верагодны варыянт.

Індывідуальныя прадпрымальнікі, якія гандлююць на рынках, не валодаюць сур'ёзнай палітычнай і эканамічнай вагай, ні палітычных, ні эканамічных праблем для беларускай улады яны стварыць не могуць. Нават калі яны спыняць сваю дзейнасць, для ўлады гэта не стане праблемай. Прыйсці на біржу працы яны не змогуць — чалавека, зарэгістраванага ІП, беспрацоўным прызнаць нельга, а працэс спынення прадпрымальніцкай дзейнасці досыць працяглы.

Трэба ўлічваць абсалютную бездапаможнасць і непісьменнасць у эканамічных пытаннях так званых прадпрымальніцкіх лідараў. Гучныя лозунгі выкрыкваць навучыліся, арганізоўваць рознага кшталту сходы і маршы больш-менш насабачыліся, а вось навыкаў апаратнай барацьбы, разумення праблем гаспадарчага права і эканомікі ў іх няма і не прадбачыцца. Таму чыноўнікі элементарна абводзяць іх вакол пальца.

Другі сцэнар менш верагодны, аднак магчымы, зыходзячы з мінулага вопыту. Прадпрымальнікам у чарговы раз працягнуць ранейшы рэжым працы: падымуць адзіны падатак з фіксаваным падаткам на дабаўленую вартасць і дадуць магчымасць нейкі час прадаваць астаткі тавараў.

І, нарэшце, трэці варыянт — фантастычны: прадпрымальнікі арганізуюцца і робяць буржуазную рэвалюцыю.

# Беларусы на лініі фронту: бабуля, матуля і немаўля



Зміцер ГАЛКО

**Хлопчыка, які нарадзіўся на лініі фронту каля Данецку, назвалі ў гонар прадзеда — Максіма Сянкевіча, беларуса з вёскі Шкава Гомельскай вобласці, які прыехаў разам з жонкай на Данбас пасля Другой сусветнай вайны.**



Марыя Максімаўна, Максімка і Людміла

Данецкі трохкутнік: Опытнае — Вадзяное — Пяскі. Паўтара гады тут цягнуліся жорсткія баі з выкарыстаннем цяжкай артылерыі. Разбурэнні ў гэтых мясцінах настолькі моцныя, што іх можна выкарыстоўваць у якасці дэкарацый для здымак постапакаліптычных блокбастараў.

Большасць мясцовых жыхароў вымушаны былі бегчы адсюль. Але некаторыя засталіся, бо не змаглі ці не захацелі пераязджаць. Нядзіўна, што ў асноўным гэта адзінокія пажылыя людзі, якія дажываюць свой век. Дзіўна сустрэць тут маладую жанчыну, якая наважылася выносіць і нарадзіць дзіця.

Сям'я Шахаўцовых жыве ў Першамайскім — сяле па суседству з Вадзяным. Складаецца яна з трох чалавек: Марыі Максімаўны, пенсіянеркі, яе дачкі Людмілы і маленькага Максіма, якому ідзе чацвёрты месяц.

Хлопчыка назвалі ў гонар прадзеда — Максіма Сянкевіча, беларуса з вёскі Шкава Гомельскай вобласці, які прыехаў разам з жонкай на Данбас пасля Другой сусветнай вайны. Жанчына здолела захаваць свае карані — вучыла дачку і ўнучку беларускай мове, нават кніжкі на ёй знаходзіла, каб яны не забываліся, адкуль родам.

Пра здольнасць беларусаў прыстасоўвацца да самых складаных умоваў жыцця ходзяць легенды і анекдоты. Магчыма, менавіта беларускія гены дапамаглі Шахаўцовым у экстраардынарных абставінах.

Большасць сваякоў Шахаўцовых жывуць у Беларусі. Але сувязь з імі перарвалася з пачаткам вайны, калі адключыўся стацыянарны тэлефон. Тэлефанаваць па мабільным у Беларусь вельмі дорага. Захавалася толькі сувязь з братам Марыі Максімаўны, Валянцінам, які жыве ў Германіі, бо пераехаў туды 7 гадоў таму з Мінска. Ён прапаноўваў ім пажыць у сваёй мінскай кватэры.

«На нашай вуліцы людзі з'язджалі адзін за адным. У нейкі момант мы пабачылі, што засталіся зусім адны. Яшчэ і вайскоўцы ў Першамайскім не стаялі. Вакол ні душы, з усіх бакоў гахае і грукоча. Вось тады нам па-сапраўднаму страшна стала. Мы ўжо і валізкі сабралі… Потым неяк ноч перачакавалі, а да раніцы ўсё сціхла. На наступны дзень таксама, быццам, не так моцна стралялі. Мы падумалі, што нічога, пацерпім пакуль», — распавядае Людміла.

«Я брату кажу, Валік, калі ўжо зусім тут будзе, тады прыедзем», — дадае Марыя Максімаўна.

Гэтае «зусім» так і не наступіла. Хоць снарады падалі зусім блізка, адзін нават заляцеў у суседскі двор, дзе асколкамі забіла сабаку. Людміла знайшла ў доме абаронены з усіх бакоў кут, хавалася там паўсёдзячы, каб не падаць на жывот. Падчас найбольш моцных абстрэлаў жанчыны хаваліся ў склепе. І ўсё ж такі нікуды не з'язджалі.

«Я незадоўга да вайны на пенсію выйшла, так радавалася — нарэшце змагу каля сажалкі сядзець, карціны вышываць крыжыкам, як мая мама рабіла, агародам займацца. А тут раптам такое… Ну, думаю, нічога, мае бацькі і не такую вайну перажылі, вытрымаем. Вельмі крыўдна было б кінуць тут усё», — тлумачыць Марыя Максімаўна.

Людмілу, эканаміста па прафесіі, утрымлівала добрая праца ў Данецку, куды яна ездзіла нават падчас першых баёў. І распачаты перад вайной раман з будучым бацькам Максіма. Нягледзячы на баявыя дзеянні, распавядае Людміла, яе абраннік «усё бегаў-бегаў, ажаніцца прапаноўваў». Яна прасіла пачакаць — шлюб першы, хацелася падрыхтавацца да вяселля як мае быць.

Вось толькі жаніх не вытрымаў «выпрабавальнага тэрміну». Лянівым аказаўся, сцвярджаюць жанчыны ў адзін голас. Ніхто б не папракаў яго за адсутнасць працы ва ўмовах вайны, але ён «нават па хаце нічога рабіць не хацеў». Сышоў да іншай, маці ўжо дзесяцігадовага дзіцяці. «Каб са сваім, маленькім, не важдацца», — заўважае Людміла, смеючыся.

Тым не менш у такіх умовах Людміла здолела вынасіць і нарадзіць здаровае дзіця. Магчыма, кажа жанчына, такія ўмовы якраз і дапамаглі ёй неяк сабрацца. Нарадзіла яна хутка і даволі лёгка. Адмовіўшыся ад кесарава сячэння, якое ёй прапаноўвалі праз высокі ціск. Радуе яе і тое, што ў бальніцах ніхто не патрабаваў грошай — увайшлі ў становішча.



Прабабуля Максіма

Да таго, як знайсці працу ў Данецку, Людміла сем гадоў працавала ў Пясках. Дзе цяпер засталося менш за два дзясяткі жыхароў, астатнія збеглі ад абстрэлаў. Людміла распавядае, што сустракала сваіх калег і знаёмых адтуль. «Жывуць цяпер абы-як і абы-дзе. Скардзяцца, плачуцца. Як уяўлю сабе, што мне вось так прыйшлося б з Максімкам бадзяцца, дык страшна робіцца», — кажа жанчына.

Першамайскае пацярпела не так моцна, як Пяскі. На вуліцы, дзе жывуць Шахаўцовы, няма моцных разбурэнняў, ёсць электразабеспячэнне, працуе крама (куды, што праўда, трэба хадзіць праз блокпост, беручы з сабой пашпарт), іх наведвае сямейны доктар. Валанцёры прывозілі вугаль, салдаты прывезлі спецыяльную ваду для малых «Малятко». Хоць падчас нашай гутаркі ўдалечыні чуюцца кулямётныя чэргі, а часам стральба з мінамётаў, жанчыны нібы не заўважаюць іх. І ўсё ж, калі размова заходзіць пра перспектывы, жанчыны, якія да гэтага ўсміхаліся, робяцца сумнымі.

«Усё з ног на галаву паставілі. Будучага мы аказаліся пазбаўленыя, вось што», — у адзін голас кажуць яны.

Больш за ўсё іх засмучае тое, што яны цяпер адрэзаныя ад Данецка. Ён для іх быў цэнтрам жыцця, там была праца, туды яны маглі ездзіць у кіно і тэатр, па тавары і проста прагуляць. Як кажа Людміла, так было ва ўсіх навакольных жыхароў у радыусе 30–40 кіламетраў вакол горада.

«Цэлую частку жыцця з ім адабралі. Хоць бы нас ужо аб'ядналі!.. Калі я ў бальніцы ляжала, бачыла нашых параненых салдат, маладых хлопцаў зусім, без рук і ног. Ды і тых, з таго боку, таксама шкада, запудрылі ім галаву з тэлевізару. Таксама цяпер без рук і ног… Дваццаць першае стагоддзе! Мы ж ужо, здаецца, цывілізаванымі сталі. У Расіі смяротнае пакаранне адмененае было, як і ў нас. А яны сюды танкаў навезлі…» — кажа Людміла і цямнее тварам.

І ўсё ж такі жанчыны больш усміхаюцца. На пытанне, як яны будуць распавядаць Максіму пра той час, калі ён нарадзіўся, адказваюць, не задумваючыся: «З гумарам!»

«Купілі Максімку дарагую замежную пустышку за 50 грыўняў, дык ён яе выплёўвае. Аддае перавагу іншай, «вітчизняного виробника», за дзесяць. Ён у нас патрыёт», — смяецца Людміла.

Прабабулю Максіма падчас Другой сусветнай вывозілі на працу ў Германію.

«Але яна не ўпадала ў роспач. Нешта і вясёлае з тых часоў згадвала, не толькі змрочнае. Ведаеце, яе вось гэты добры гумор і дабрыня выратавалі. Яна працавала ў гаспадароў, а жыла ў лагеры. Гаспадары яе часам нечым частавалі, яблыкамі са свайго саду ды іншым. Дык яна заўсёды прыносіла пачастунак сваім у лагер, не забывалася пра іншых», — распавядае Марыя Максімаўна.

Сапраўды, найлепшае, што можна зрабіць падчас вайны, — гэта дапамагчы тым, хто найбольш ад яе цярпіць. Спадзяемся, знойдуцца і тыя, хто захоча дапамагчы сям'і Шахаўцовых.



Уваход у падвал, дзе хаваліся жанчыны



Сям'я на лініі фронту



Марыя Максімаўна на фоне вышытай яе маці карціны

# Польшча можа

Пётра РУДКОЎСКІ

**У студзені ў Еўрапарламенце адбыліся дэбаты аб стане дэмакратыі ў Польшчы. Як адзначыў ва ўступным слове старшыня парламента Марцін Шульц, гэтыя дэбаты зʼяўляюцца першым такога роду мерапрыемствам і ўяўляюць сабой метад «ранняга рэагавання» на пагрозу для дэмакратычнага парадку ў якой-небудзь краіне ЕС.**




Дэбаты адбыліся ў рамках зацверджанай у 2014 годзе працэдуры рэагавання інстытутаў ЕС на праблемы з дэмакратыяй у паасобных краінах ЕС, дзе самі дэбаты ўяўляюць сабой першы (самы мяккі) этап уздзеяння, з магчымасцю прымянення больш цвёрдых мераў, аж да пазбаўлення дадзенай краіны права голасу ў ЕС, калі краіна не выпраўляецца.

Дык што насамрэч здарылася ў Польшчы і з-за чаго яе ўрад быў выкліканы на чырвоны дыван у Еўрапарламент? У прамовах крытыкаў цяперашняга польскага ўраду фігуравалі два асноўныя закіды: спроба ўраду ўзяць пад кантроль публічныя СМІ; ігнараванне рашэнняў Канстытуцыйнага Трыбуналу і замена яго чальцоў сваімі прыхільнікамі. Гэтыя закіды суправаджаліся заўвагай больш агульнага, скажам так, паліталагічнага характару: кіруючая партыя Польшчы — «Права і Справядлівасць» (ПіС) — злоўжывае спасылкай на «большасць».

Перад тым, як пракаментаваць закіды еўрапарламентараў, варта сказаць колькі слоў пра прэлюдыю да дэбатаў. У сваім колішнім артыкуле ў «Новым Часе» (22.08.2015) я згадваў пра алергічную рэакцыю вядучых еўрапейскіх СМІ на выбар Анджэя Дуды (кандыдата ад ПіС) на прэзідэнта. Няцяжка згадаць, што пасля перамогі ПіС на парламенцкіх выбарах у кастрычніку мінулага года алармісцкі тон адносна Польшчы яшчэ больш узмацніўся. Цягам некалькіх тыдняў перад дэбатамі заходнія СМІ ажно кіпелі ад абурэння на дзеянні новага ўраду нашай суседкі. Выраз «беларускія стандарты» на азначэнне тых ці іншых яго дзеянняў не сыходзіў з вуснаў унутраных крытыкаў і прасочваўся ў рыторыцы крытыкаў з Заходняй Еўропы.

Сам старшыня Еўрапарламенту, згаданы ўжо Марцін Шульц, сацыяліст, у сваіх ранейшых выступах называў палітыку ПіС «пуцінізацыяй Польшчы», а ў інтэрвʼю для радыё «Дойчландфунк» пасунуўся нават да заявы, нібы «тое, што зараз адбываецца ў Польшчы, ёсць дзяржаўны пераварот». За тыдзень да еўрапарламенцкіх дэбатаў брытанскі леваліберальны «The Guardian» падагульніў «праблемы з дэмакратыяй» у Польшчы наступным чынам: польскі ўрад прасунуў «кантраверсійны закон, які дае польскаму ўраду больш кантроль над СМІ, правёў кадравыя чысткі ў інстытутах тэле- і радыёвяшчання, а таксама напакаваў вярхоўны суд лаялістамі». Як я ўжо пазначыў вышэй, вастрыё крытыкі польскага ўраду ў Еўрапарламенце было скіравана менавіта ў гэтыя два пункты: медыйная палітыка і дачыненні да Канстытуцыйнага Трыбуналу. Вось цяпер давайце прыгледзімся да гэтых закідаў.

**1. «Падпарадкаванне СМІ».**

Закід «падпарадкавання СМІ з боку ПіС» не зʼявіўся на пустым месцы. Варта, аднак, удакладніць, што гаворка тут ідзе выключна пра так званыя «публічныя СМІ» (адпаведнік «дзяржаўных СМІ» ў нашым кантэксце).

Перад самым Новым Годам польскі Сейм прыняў законапраект, паводле якога старшыня і чальцы кіраўніцтва

---

# Мінск, Масква, Варшава —

Алег НОВІКАЎ

**Першыя сто дзён новага польскага ўраду партыі «Права і Справядлівасць» (ПіС) запомняцца галоўным чынам канфліктам з ліберальнай часткай грамадскасці і Брусэлем, дзе выказалі занепакоенасць магчымай пуцінізацыяй краіны. Ужываецца таксама тэзіс пра пагрозу «беларусізацыі» Польшчы. Пра тое, наколькі рэалістычны імпарт беларускай і расійскай мадэляў за Буг, распавядае кракаўскі гісторык Лукаш Корнак.**

***— Ці сапраўды Польшчы пагражае пуцінізацыя або беларусізацыя?***

— Пачаць можна з таго, што самі кансерватары з ПіС не хаваюць, што цікавяцца венгерскай, далёкай ад ідэальнай, версіяй дэмакратыі. Аднак у простага абывацеля орбанаўская Венгрыя не выклікае асаблівых фобій. Пры ўсіх аўтарытарных фокусах, што характэрныя Віктару Орбану, Венгрыя застаецца часткай ЕС і сябрам NATO. Іншае справа — Пуцін, якога сапраўды баяцца. Або Беларусь, якая мае імідж нейкага адсталага калгасу. Таму словы пра «пуцінізацыю» або «беларусізацыю» — гэта простая паліттэхналагічны прыём, спроба навязаць публіцы мем для дыскрэдытацыі ПіС. Праекцыямі на Пуціна і Лукашэнку справа не абмяжоўваецца. Калі вы пагартаеце прэсу, то пабачыце, што Качыньскага таксама актыўна параўноўваюць з Ярузэльскім, паколькі, маўляў, у Польшчы зараз усё гэта жа, як пры сацыялізме — «партыя загадвае, а ўрад выконвае».

***— На вельмі кансерватыўным праўрадавым сайце Kresy.pl на днях зʼявіўся тэкст, аўтар якога заклікае рабіць стаўку на супрацоўніцтва з Беларуссю, якая, маўляў, ментальна і гістарычна бліжэй палякам. Ці магчымы дыялог паміж аўтарытарным Мінскам і Варшавай, якая, як лічаць некаторыя, схіляецца да аўтарытарызму?***

— Матэрыялы з заклікам перагледзець стаўленне да Лукашэнкі зʼяўляюцца час ад часу, аднак гэта не мэйнстрым польскай правай думкі. ПіС — гэта прадукт доўгай правай традыцыі, яе складнікі — не толькі клерыкалізм, антысемітызм, тэорыя змовы, аднак і антыкамунізм. Вітальд Вашчыкоўскі, новы міністр замежных спраў, нават папярэдні ліберальны ўрад называе ўрадам марксістаў. Зараз абвешчаная ідэя пра дэкамунізацыю каля 1500 назваў вуліц у розных гарадах краіны. Цяжка сказаць, як на гэтым фоне можа развівацца шчыры дыялог Варшавы з Мінскам, дзе кастрычніцкая рэвалюцыя святкуецца як дзяржаўнае свята. Лукашэнкаўскі кансерватызм усё ж мае шмат адценняў савецкага.

***— Пуцінізацыя, орбанізацыя, беларусізацыя — можна называць палітычны працэс у Польшчы па-рознаму, аднак у любым выпадку прымаюцца прававыя акты, якія абʼектыўна могуць прывесці да абмежавання свабоды СМІ, парушэння прынцыпу незалежнасці галін улады, росту паліцэйскага кантролю над прыватным жыццём.***

— На маю думку, ёсць адзін больш важны нюанс. Вось мы маем канфлікт вакол прызначэння сяброў Канстытуцыйнага трыбуналу. Прэмʼер Беата Шыдла прапануе новы прынцып, аргументуючы гэта неабходнасцю праводзіць сацыяльныя рэформы. Напрыклад, абкласці падаткамі фінансавыя трансакцыі, або ўзняць суму дапамогі на дзіця.

**Погляды Качыньскага цяжка адаптаваць да рэальных вымярэнняў існуючай сістэмы. Замест гэтага навязваюцца рэферэнцыі да часоў ваеннага становішча, агучваюцца тэзісы правага крыла «Салідарнасці», якое да гэтага часу жыве думкай, што мірны пераход да дэмакратыі ў 1989 годзе не знішчыў камунізм**

Аднак цяжка ўявіць, каб судздзі, што былі прызначаныя паводле старой формулы, сапраўды заблакавалі б падобныя праекты. Нашто ім гэта трэба? Таму, мяркую, татальны кантроль над дзяржаўнымі інстытутамі — гэта пакуль не галоўная задача ПіС. На першае месца выходзіць патрэба ў перманентным канфлікце, у пошуку ворага. Нехта вельмі трапна пабачыў у кроках ураду сюжэт вядомай кнігі Дароты Маслоўскай «Вайна польска-руская». Яе галоўны персанаж — вечны наркаман, якому пад кайфам падаецца, што неўзабаве павінна пачацца польска-руская вайна.

Тут ёсць і асабістыя «тараканы». Погляды Качыньскага цяжка адаптаваць да рэальных вымярэнняў існуючай сістэмы. Замест гэтага навязваюцца рэферэнцыі да часоў ваеннага становішча, агучваюцца тэзісы правага крыла «Салідарнасці», якое да гэтага часу жыве думкай, што мірны пераход да дэмакратыі ў 1989 годзе не знішчыў камунізм, а наадварот, дазволіў яму існаваць і далей у закамуфляванай форме. Без канчатковай дэкамунізацыі,

# абеларусіцца

публічнага радыё і тэлебачання будуць прызначацца міністрам скарбу. Раней выбар асоб на такія пасады адбываўся на конкурснай аснове. З розных бакоў паступалі заўвагі, што «конкурсная аснова» ніяк не выключала палітычнага фактару з працэсу адбору.

Трэба, аднак, прызнаць, што конкурсны спосаб абірання, хоць і не гарантаваў поўнай празрыстасці працэсу, аднак усё ж ускладняў кіроўнай партыі наўпростае падпарадкаванне сабе публічных СМІ. Цяпер залежнасць кіраўніцтва публічных медыя ад кіруючай партыі перастане быць абумоўлена конкурснымі працэдурамі. Дарэчы, сярод планаў ПіС на будучае — перайменаванне «публічных медыя» ў «нацыянальныя» (narodowe), паколькі адной з галоўных іх задач будзе «мацаванне нацыянальнай тоеснасці» (гэтая інфармацыя можа быць цікавай для прыхільнікаў тэзы, што Еўропа крочыць у накірунку «постнацыянальнай эпохі»).

Што ж тычыцца «кадравых чыстак у СМІ», то «The Guardian» яўна перастараўся: масавых звальненняў не было і не плануецца. Магчыма, брытанская газета палічыла «чысткамі» той факт, што некалькі вядомых журналістаў заявілі пра сыход з TVP на знак пратэсту супраць новага закона аб СМІ. Але гэта папросту сітуацыя пратэсту, а не «чысткі».

**2. ПіС і Канстытуцыйны Трыбунал.**

Палітыка цяперашняй парламенцкай большасці адносна Канстытуцыйнага Трыбуналу пазначана рознымі юрыдычнымі і этычнымі праблемамі, але выраз «пакаванне Трыбуналу лаялістамі» тут зусім не да месца. Паспрабую коратка, без уваходжання ў дэталі, прадставіць сутнасць праблемы.

У чэрвені 2015 года тагачасная кіруючая кааліцыя («Грамадзянская платформа» і Польская сялянская партыя), прадчуваючы сваю паразу на надыходзячых парламенцкіх выбарах, прыняла законапраект аб Канстытуцыйным Трыбунале. Законапраект даваў магчымасць скараціць тэрмін паўнамоцтваў пяці канстытуцыйных суддзяў, каб на іх месца маглі быць прызначаны суддзі з падачы тагачаснай парламенцкай большасці. Гэта пры тым, што фактычна ўсе астатнія 10 суддзяў былі ўжо прызначаныя той самай палітычнай фармацыяй на розных этапах яе панавання. Новы Сейм (скажам так, «пісаўскі») сцвердзіў, што рашэнне аб скарачэнні паўнамоцтваў пяці суддзяў і прызначэнні пяці новых было прынята з парушэннем рэгламенту Сейма і, адпаведна, прызнаў выбар пяці новых суддзяў неправамоцным. На іх месца ПіС абраў пяць «сваіх» суддзяў. Справа яшчэ больш ускладнілася, калі Канстытуцыйны Трыбунал сцвердзіў неканстытуцыйнасць выбару папярэднім Сеймам двух суддзяў, а абранне трох суддзяў прызнаў канстытуцыйным.

Тут не месца, каб займацца юрыдычным або этычным аналізам усёй гэтай гісторыі. Аднак заўважым: пры любой інтэрпрэтацыі падзей «пакаванне Трыбуналу лаялістамі» тут зводзіцца да прызначэння ПіС усяго 1/3 чальцоў Трыбунала. Гэта выглядае як спроба займець хоць якое прадстаўніцтва ў Трыбунале, што з палітычнага і этычнага гледзішча з'яўляецца цалкам зразумелым крокам, тым больш на фоне таго, што папярэдняя кіруючая група напралом імкнулася да намінавання ўсяго складу канстытуцыйных суддзяў. Называнне гэтай спробы «пакаваннем Трыбуналу лаялістамі», а тым больш параўноўванне гэтага з дзеяннямі Лукашэнкі ў 1996–1997 гадах, як тое чыняць некаторыя крытыкі ПіС, патыхае звычайнай дэмагогіяй.

**3. Эксплуатацыя паняцця «большасці».**

Па гэтым пункце схільны прызнаць рацыю крытыкаў ПіС. Агаломшаная падвойным поспехам (перамога на прэзідэнцкіх і парламенцкіх выбарах), гэтая партыя адразу ж узяла ва ўзбраенне адзін з найбольш прымітыўных аргументацыйных прыёмаў, які зводзіцца да наступнага разважання: большасць прагаласавала за нас, значыць, мы — аўтэнтычныя прадстаўнікі народу-нацыі. А тут ужо зусім блізка да пазіцыі, што ў імя народа-нацыі можна нават не пераймацца канстытуцыйным парадкам.

Падчас дэбатаў у польскім парламенце неяк прагучала з вуснаў аўтарытэтнага палітыка, Конрада Маравецкага, наступная фраза: «Закон — важная рэч, але гэта не ёсць нешта святое. (...) Дабро Народу (Нацыі) — вышэй за закон». Аўтар гэтых слоў прамаўляў ад імя іншай партыі, аднак рабіў ён гэта ў падтрымку кіроўнай партыі, і яе чальцы ўзнагародзілі яго прамову гучнымі апладысментамі, прычым многія пляскалі ў далоні стоячы. У спалучэнні з тэзай, што кіроўная партыя з'яўляецца аўтэнтычным прадстаўніком народу, прыведзеныя вышэй словы пана Маравецкага вядуць да высновы, што кіроўная партыя можа «ў імя дабра Народу» нават ігнараваць тыя ці іншыя пункты закону. Хоць гучныя заявы пра тое, што «ПіС нішчыць канстытуцыйны парадак», з'яўляюцца прапагандысцкім перабольшаннем, аднак рыторыка «вышэйшасці народнага інтарэсу над законам» сапраўды насцярожвае.

Ёсць яшчэ адзін момант, які выклікае занепакоенасць. Падчас дэбатаў у Еўрапарламенце галоўнымі абаронцамі цяперашняга польскага ўраду сталі такія персоны, як Эмерык Шопрад, французскі эквівалент Аляксандра Дугіна, які трызніць пра саюз Еўропы з Расіяй і спыненне «амерыканскай агрэсіі», зацяты еўраскептык Петр Мах (чэх) або дэпутат-скандаліст Януш Корвін-Міке, якія амаль кожны свой выступ у Еўрапарламенце заканчваюць фразай: «Еўрасаюз павінен быць знішчаны». Сам факт, што яны выступілі ў падтрымку цяперашняга польскага ўраду, роўна ж як і тое, што кіраўніца гэтага ўраду, Беата Шыдла, пляскала ў далоні ў адказ на іх выступы, сам па сабе яшчэ не азначае, што ПіС гравітуе ў прарасійскім і еўраскептычным напрамку. Аднак жа паглыбленне канфлікту ПіС з лева- і правацэнтрысцкімі сіламі можа сапраўды скіраваць новы польскі ўрад у такім напрамку. Пра такую рызыку я ўжо згадваў у сваім жніўеньскім артыкуле, а зараз гэта падаецца яшчэ больш рэальным. Будучыня застаецца адкрытай, але можа здарыцца нават так, што ад уладаў у Мінску мы будзем чуць усё больш і больш пра патрэбу перагляду нашых адносінаў з усходнім суседам (на карысць Еўропы), а ў Варшаве гаворка будзе весціся пра перагляд дачыненняў з Брусэлем (на карысць Расіі). У геапалітычным плане Польшча сапраўды можа крышачку «абеларусіцца», а Беларусь — «паланізавацца».

# агульная справа?




маўляў, польская мадэль не будзе эфектыўнай. Паколькі камуністаў у Польшчы практычна няма, іх ярлык навесілі на ліberalаў.

***— Хіба не можа так званая кампанія супраць «палякаў горшага гатунку» прывезці да сістэмных зменаў у краіне?***

— Калі вы заўважылі, усе канкрэтныя рэформы ПіС звязаныя з гуманітарным сектарам. Гэта не выпадкова, паколькі структурныя змены павінны азначаць рэформы ў сістэме эканомікі, дзе пануе іншаземны капітал. Замах на яго пазіцыі цяжка ўявіць з улікам моцнай ступені міжнароднай эканамічнай інтэграцыі. У дадатак, ва ўмовах украінскага канфлікту ад Захаду залежыць бяспека Польшчы. Праўда, Качыньскі кажа пра намер стварыць новы тып польскага прадпрымальніка, бізнес якога будзе падпарадкаваны нацыянальным інтарэсам, аднак гэта, хутчэй, архаічная ўтопія.

Таму культурай, прамоцыяй рэлігіі, вайной з помнікамі, пытаннямі маральнай цэнзуры хутчэй «аўтарытарны рэжым» ПіС і абмяжуецца. Калі, натуральна, не адбудзецца нешта глабальнае накшталт крызісу еўрапраекту. А для таго, каб бясконца шукаць сляды злачынцаў, адказных за катастрофу прэзідэнцкага лайнера пад Смаленскам, не патрэбныя кансультацыі Пуціна або Лукашэнкі.

Ёсць іншая, больш важная праблема, якая заключаецца ў тым, што пра мадэль еўрапейскай дэмакратыі, якая паўстала пасля калапсу камунізму, можна забыць. Глабальны эканамічны і міграцыйны крызісы стварылі абсалютна новую павестку дня і новы тып сярэднестатыстычнага выбаршчыка, які ахвотна падтрымлівае ксенафобскія лозунгі. Лібералізм губляе папулярнасць, а яго адэпты — праслойка сярэдняга класу — з-за крызісу вельмі звузілася і знаходзіцца ў фрустрацыі. Таму эксперымент ПіС можа ў розных варыяцыях зацягнуцца на больш доўгі час, чым падаецца.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### УКРАІНА. Які сапраўдны сцяг?

Ва Украіне адбылася першая фізічная сутычка паміж прыхільнікамі цяперашняй версіі ўкраінскага сцягу (зверху сінія паласа, унізе — жоўтая) і аматарамі рэформы дзяржаўнай сімволікі. Апошнія лічаць, што сцяг трэба перавярнуць. Неабходнасць такога кроку яны тлумачаць не толькі спасылкамі на гісторыю (першапачаткова ўкраінскі нацыянальны рух, сапраўды, выкарыстоўваў жоўта-сінія сцягі), так і зваротам да метафізічных тэорый. Залатое, жоўтае, на іх думку, сімвалізуе духоўнасць. Сіняе ж — гэта ўсё зямное. Тое, што на цяперашнім украінскім сцягу зямное вышэй за духоўнае — вычварэнства, якое негатыўна ўплывае на лёс краіны. Раней дэбаты наконт сімволікі не выходзілі за рамкі інтэрнэт-форумаў і семінараў спецыялістаў. Аднак 1 лютага бакі памерыліся фізічнай сілай. Адбылося гэта ў Кіеве падчас пікету ля Адміністрацыі прэзідэнта з патрабаваннем пакараць вінаватых у падзеях пад Ілавайскам. Да пікету далучылася група пад перагорнутымі сцягамі, што не спадабалася тым, хто стаяў пад сіне-жоўтымі. У выніку выбухнула моўная перапалка з выкарыстаннем фізічнай сілы.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### РАСІЯ. Забараняецца захапляцца турыстычнай прывабнасцю Турцыі

Росспажыўнагляд паведаміў, што праводзіць праверкі ў рэгіёнах, каб выявіць факты продажу тураў у Турцыю, якія забароненыя ўказам прэзідэнта Расіі. Пры гэтым у ведамстве падкрэслілі, што публічная рэклама турыстычнай прывабнасці Турцыі можа быць расцэненая як «прасоўванне» турэцкага прадукту, што пацягне за сабой штрафы. Перапужаныя такой перспектывай, тураператары папрасілі растлумачыць, як разумець тэрмін «турыстычная прывабнасць Турцыі»? Прэс-службе ведамства давялося зрабіць спецыяльнае тлумачэнне. Такім чынам, калі на сайце турбюро ёсць інфармацыя, дзе распісана, што Турцыя — выдатны рэгіён, дзе добра адпачываць, гэта і з'яўляецца «прасоўваннем», што падпадае пад «антытурэцкі» ўказ Пуціна ад 28 лістапада.

**Паводле турэцкай прэсы**

### ВЕНЕЦЫЯ. 500 гадоў першаму гета

Яўрэйская супольнасць адзначыла незвычайную гадавіну. Пяцьсот гадоў таму ў Венецыі з'явілася першае ў свеце гета — гарадская зона, адведзеная для жыцця мясцовых габрэяў. Гісторыкі прызнаюць, што габрэі і раней жылі ў гарадах Еўропы больш-менш кампактна, паколькі іх камуны мелі за аб'ядноўчы цэнтр сінагогу. Аднак раён у Венецыі — квартал, абмежаваны мурамі са спецыяльнай аховай. Паколькі габрэйскі квартал у Венецыі знаходзіўся каля ліцейнага цэха, што па-італьянску гучыць як «ghetto», яго сталі называць такім жа чынам. У 1562 годзе Папа Рымскі ўзгадаў слова «гета» ў адной з пастаноў, і тэрмін прыжыўся ва ўсёй Еўропе, як і практыка ствараць зачыненыя габрэйскія зоны. Калі габрэі ў XIX стагоддзі атрымалі грамадзянскія правы, практычна ўсе гета былі паступова разбураныя. Іх у 1939 годзе адрадзілі нацысты ў рамках генацыду габрэйскага насельніцтва. Працягласць існавання розных гета вар'іравалася ад некалькіх дзён да месяцаў (Барысаў) і нават гадоў (Мінск). Лічыцца, што апошнія гета зніклі ў Еўропе ўвесну 1945-га, а слова стала ўжывацца адносна этнічных кварталаў у гарадах ЗША.

**Паводле ізраільскай прэсы**

### ГЕРМАНІЯ. Гучаць заклікі страляць па мігрантах



Старшыня правай партыі еўраскептыкаў «Альтэрнатыва для Германіі»(AfD) Фраўке Петры заявіла, што германская паліцыя ў выпадку неабходнасці павінна адкрываць агонь па мігрантах, якія спрабуюць нелегальна патрапіць у краіну. У інтэрв'ю газеце «Mannheimer Morgen» Петры падкрэсліла, што паліцыя павінна спыніць паток мігрантаў, якія спрабуюць пранікнуць у з Аўстрыі, і прымяненне зброі ў крайніх выпадках — гэта патрабаванне закона. «Я не хачу, каб так адбывалася, але прымяненне зброі — гэта крайняя мера», — сказала яна. Гэтыя словы Петры выклікалі асуджэнне з боку германскіх палітыкаў левага кшталту, а таксама прадстаўнікоў паліцыі. Па афіцыйных дадзеных, за мінулы год у Германію прыбыло больш як 1,1 мільёна мігрантаў — у асноўным з краін Блізкага Усходу і Паўночнай Афрыкі. Канцлер Германіі Ангела Меркель заявіла, што большасць бежанцаў з Сірыі і Ірака будуць адпраўленыя дадому, калі ў іх краінах спыняцца узброеныя канфлікты.







Фота www.meduza.io

# Выбары ў ЗША: назад у 1824-ы?

Алег НОВІКАЎ

**За акіянам пачаліся праймерыз — унутрыпартыйныя выбары кандыдатаў на пасаду прэзідэнта ЗША. Напярэдадні шэраг СМІ выказалі версію, паводле якой цяперашняя гонка кандыдатаў закончыцца самым вялікім крызісам у гісторыі выбараў прэзідэнта ЗША.**

Адна з самых любімых цяперашніх фішак журналістаў — маляваць будні ЗША у выпадку перамогі Дональда Трампа, скандальнага правага папуліста, які на цяперашні дзень утрымлівае першынства сярод кандыдатаў-рэспубліканцаў. Калі Трамп пераселіцца ў Белы дом, амерыканцаў, паводле пераканання футуролагаў, чакае вайна з Кітаем, зачыстка мусульман, і нават рымейк грамадзянскай вайны XIX стагоддзя, праўда, на гэты раз паміж белымі і чарнаскурымі, якім будуць дапамагаць асобы лацінаамерыканскага паходжання.

Аднак непасрэдна напярэдадні праймерыз у прэсе з'явілася новая, не менш жудасная «страшылка». Шэраг палітолагаў прагназуе, што ЗША могуць увогуле не атрымаць наступнага прэзідэнта. Такая сітуацыя верагодная праз патавую сітуацыю, якая можа скласціся ў Калегіі выбаршчыкаў.

Нагадаем, што менавіта Калегіяй выбаршчыкаў абіраецца прэзідэнт Злучаных Штатаў. Адбор выбаршчыкаў адбываецца на партыйных з'ездах у кожным штаце або іх выбірае партыйнае кіраўніцтва. Які кандыдат выйграў выбары ў гэтым штаце — людзей таго і адпраўляюць абіраць прэзідэнта. Колькасць выбаршчыкаў ад кожнага штата вагаецца.

Паколькі ў ЗША даўно склалася двухпартыйная сістэма, адзін з кандыдатаў заўжды меў у Калегіі падтрымку большую, чым у другога. Як следства, высветліць імя прэзідэнта было не цяжка. Іншая сітуацыя, калі ў Калегію прарываюцца прадстаўнікі нейкага трэцяга кандыдата, які здолеў парушыць палітычную манаполію «аслоў» і «сланоў».

Магчыма, хтосьці памятае мільярдэра Генры Роса Перо, незалежнага кандыдата, які ў 1992 годзе даў сапраўдны бой кандыдатам ад традыцыйных партый, атрымаўшы 18 працэнтаў. Увогуле, самую вялікую групу ў гісторыі сярод так званых «трэціх партый» у Калегіі мела Прагрэсіўная партыя, якая ў 1912 годзе правяла ў Калегію 88 выбаршчыкаў.

Як бачым, тэарэтычна, у Калегіі можа скласціся парадаксальная схема, калі ніводны з кандыдатаў у прэзідэнты не будзе мець большасці (на сёння, дарэчы, большасць складае 270 галасоў). І на думку некаторых палітолагаў, у гэтым годзе мы станем сведкамі амаль неверагоднай патавай сітуацыі.

Падставай для такіх прагнозаў сталі чуткі пра вылучэнне ў прэзідэнты 73-гадовага Майкла Блумберга, які зрабіў сабе імя падчас знаходжання на пасадзе мэра Нью-Ёрка. Менавіта на кадэнцыю Блумберга, які на той час быў рэспубліканцам, прыйшлася атака тэрарыстаў на вежы-блізняты. Падчас 9/11 граданачальнік праявіў сябе як эфектыўны менеджар, чым вельмі спадабаўся ўсёй краіне. У 2001 годзе часопіс «Time» абвясціў яго персонай года.

Пасля таго, як Блумберг пакінуў пасаду, яму неаднаразова прапаноўвалі паспрабаваць сябе ў якасці кандыдата ў прэзідэнты, аднак экс-мэр увесь час адмаўляўся. І вось цяпер, быццам, гатовы балатавацца. Лічыцца, што яго фігура можа кансалідаваць умераных рэспубліканцаў і выратаваць брэнд партыі Лінкальна—Ніксана—Рэйгана. Аднак не факт, што Блумберг трыумфальна пераможа, што і дае глебу для спекуляцый наконт «падвешанага» фармату будучай Калегіі выбаршчыкаў.

Праўда, аўтары Канстытуцыі ЗША прадугледзелі такі форс-мажор. Паводле амерыканскага Асноўнага закону, у падобным выпадку прэзідэнта абірае наўпрост Палата прадстаўнікоў. І такі прэцэдэнт у гісторыі меў месца. У 1824 годзе ні Джон Адамс, ні Эндру Джэксан — вядучыя кандыдаты — не атрымалі большасці ў Калегіі выбаршчыкаў. Прыйшлося звяртацца ў Палату прадстаўнікоў, якая шляхам галасавання вырашыла, што Адамс больш адпавядае крытэрам прэзідэнта. Адным словам, сваё рашучае слова сказаў закон.

Аднак спецыялісты ў амерыканскай гісторыі кажуць, што не ўсё тады было так проста. Адамс ніколі не стаў бы прэзідэнтам без падтрымкі спікера парламента Генры Клэя (Henry Clay), які прапанаваў кандыдату здзелку — галасы падпарадкаваных яму дэпутатаў у Палаце ў абмен на пасаду дзяржаўнага сакратара. Так Адамс і стаў гарантам. Гэты ўсім вядомы факт, а таксама тое, што на выбарах Адамс атрымаў толькі 30 працэнтаў галасоў супраць 40, якія меў Джэксан, рэзка напружылі палітычную атмасферу ў краіне. Шматлікія амерыканцы былі шакаваныя — ніхто не думаў, што парламентары прагаласуюць насуперак волі большасці электарату. Трэба аддаць належнае Джэксану, які не павёў народ на плошчы. Ён сканцэнтраваўся на будучай кампаніі, галоўнай фішкай якой стала абвінавачванне Адамса ў карупцыі. Праз 4 гады Джэксан стаў прэзідэнтам.

Прэса баіцца, што магчымы рымейк 1824-га ў цяперашняй Амерыцы будзе не такім мірным. «Уявіце сабе, што нешта падобнае (дэфіцыт большасці ў калегіі) адбудзецца ў гэтым годзе, у краіне, дзе эмоцыі зашкальваюць. Ёсць два варыянты. Першы — на Калегію выбаршчыкі прыцягнуць зброю і ў выніку перастрэлкі вызначыцца большасць. Другі варыянт — краіна пагрузіцца ў хаос», — піша «The Week».

Сам Блумберг, праўда, асцярожна каментуе свае кандыдацкія перспектывы. Лічыцца, што ён чакае першых вынікаў праймерыз дэмакратаў. Калі наперад вырвецца Берні Сандэрс з яго іміджам паслядоўнага сацыяліста, узнікне агульнанацыянальны запыт на палітыка-цэнтрыста, чым можа скарыстацца Блумберг. Калі наперад вырвецца Хілары Клінтан, шансы Блумберга як лідара цэнтру выглядаюць не такімі высокімі.

У любым выпадку, пачатак сакавіка — апошні тэрмін, калі палітык, які мае намер балатавацца ў прэзідэнты, звычайна абвяшчае пра свае намеры. Пасля будзе позна. Таму чакаць адказу на пытанне, ці можа або не паўтарыцца крызіс 1824-га году, засталося нядоўга.

# Малдоўскі ўрок

Алег НОВІКАЎ

**Як сталася, што Малдова, найбольш прасунутая на шляху еўраінтэграцыі краіна СНД, на вачах ператвараецца ў пуцінскі фарпост?**



Фота www.forum.md

«Еўрапейская гісторыя поспеху» — такім вызначэннем узнагародзіў адзін з еўрачыноўнікаў Малдову ў 2010 годзе. На той час краіна, падавалася, канчаткова ўзяла курс на Еўропу. Хутка яна атрымала бязвізавы рэжым, у 2014 годзе была падпісаная эканамічная асацыяцыя з ЕС, у краіну пайшлі неверагодныя па мясцовых маштабах крэдыты.

Прайшло ўсяго пяць гадоў — і ў дачыненні да Малдовы ўжываюцца процілеглыя ацэнкі: «краіна еўразійскай рэвалюцыі», «краіна — антымайдан». Паводле дадзеных сацыёлагаў, лагер малдаван-еўраоптымістаў скараціўся з 78 працэнтаў у 2007 годзе да 30 працэнтаў на сёння. Таксама фіксуецца пашырэнне папулярнасці праекту еўразійскай інтэграцыі, нягледзячы на тое, што эканамічны стан краін-сяброў гэтага аб'яднання, мякка кажучы, не лепшы.

Метамарфозы малдаўскай калектыўнай свядомасці і наступствы цяперашніх падзей у краіне для рэгіёну — адна з самы папулярных тэмаў у СМІ краін СНД.

Што тычыцца прычын выбуху еўраскептыцызму ў Малдове, то, як правіла, дамінуе версія пра суб'ектыўны фактар. Большасць каментатараў лічаць, што галоўнай прычынай скарачэння колькасці прыхільнікаў еўрапейскай інтэграцыі з'яўляюцца дзеянні кіруючай у Малдове т. зв. Праеўрапейскай кааліцыі, якая абапіралася на адну з фракцый мясцовага алігархату. Гэты клан без комплексаў выкарыстоўваў уладу ў сваіх інтарэсах, кульмінацыяй чаго стала афёра па вываду з асноўных банкаў краіны больш за 1,5 мільярда долараў (нагода цяперашніх пратэстаў).

Ёсць думка, што адказнасць за скепсіс наконт ЕС нясе і Захад, які свядома зрабіў стаўку на згаданую алігархічную групоўку. Выданне «Украінская праўда» піша, што пераломным момантам стаўлення да ЕС стала ацэнка парламенцкіх выбараў 2015 года. Нягледзячы на відавочныя парушэнні, еўраэмісары ніякіх хібаў на выбарах не заўважылі, што выклікала першаснае незадаволенне ў грамадстве.

Пасля таго, як выбухнула банкаўская афера, заходнія дыпламаты, быццам, узялі дыстанцыю ад кааліцыі. Гэта спрыяла паўстанню руху новых еўрафілаў, якія пачалі акцыі вулічнага пратэсту. Аднак на днях еўрапейцы і ЗША раптам зрабілі новы паварот: падтрымалі абранне на пасаду прэм'ера Уладзіміра Плахатнюка — прадстаўніка старой каманды.

Вось як кішынёўская газета «Ведомости» апісвае рэакцыю грамадства: «Калі ў Кішынёве даведаліся, што ЗША падтрымліваюць новую парламенцкую большасць, якая была створаная з дапамогай пагроз, подкупу, шантажу на чале з алігархам, шмат у каго быў шок. Уражаныя былі і блізкія да Захаду палітолагі, якія вінавацяць Плахатнюка ў рэйдарстве малдаўскай дзяржавы і стварэнні сістэмы карупцыі, і праеўрапейскія палітыкі «новай хвалі», якія збіралі ў Кішынёве шматтысячныя мітынгі».

Ёсць група каментатараў, якія бачаць у палітычных працэсах вытворную эканомікі. На іх думку, эрозія еўраоптымізму пачалася пасля таго, як сталі праяўляецца вынікі эканамічнай асацыяцыі з ЕС. Праз год пасля падпісання дамовы экспарт Малдовы ўпаў на 13% (а ў Расію — на 50 працэнтаў). Навала еўрапейскага імпарту ў краіну, якая цалкам адчыніла межы, зрабіла малдаўскага вытворцу неканкурэнтаздольным. Літаральна за некалькі месяцаў практычна ўсе эканамічныя аб'екты апынуліся на мяжы банкруцтва. Гэта і стварыла сацыяльную базу маніфестацый, якія з восені страсаюць малдаўскую сталіцу.

Але некаторыя лічаць, што шмат у чым вінаватыя самі малдаване, якія мелі занадта вялікія ілюзіі адносна тэмпаў набліжэння краіны да стандартаў ЕС. Калі стала зразумела, што еўраінтэграцыя расцягнецца на дзесяцігоддзі, гэта выклікала адпаведны сіндромы. «Адчувальны прагрэс у галіне еўраінтэграцыі адсутнічае на фоне эканамічных цяжкасцяў і высокага ўзроўню беспрацоўя, што спрыяе росту расчаравання ў ЕС», — канстатавалі летась аўтары даследавання агенцтва «Slovac Atlantic Commission». Напэўна, такім настроям спрыяла і частковае расчараванне разрэкламаванага раней бязвізавага рэжыму для малдаван. Правілы наведвання ЕС не даюць ім права на працу ў ЕС і вымагаюць ад аматара падарожжа наяўнасці пакету дакументаў, а таксама значную суму грошай.

**Цяпер Малдове будзе цяжэй абзавесціся крэдытам даверу ад Еўрасаюза. Умовы апынуцца больш жорсткімі, бо еўрапартнёры расчараваныя цяперашняй уладай**

Што тычыцца наступстваў змены сімпатый у Малдове, то яны ў чымсьці парадаксальныя. У Кіеве штурм парламента ў Кішынёве разглядаюць не як антыеўрапейскі акт, а як «чорную метку» ўкраінскаму ўраду. Маўляў, Яцанюка і Парашэнку чакае тое ж самае, што і малдоўскіх еўраінтэгратараў, калі яны будуць займацца сабатажам рэформаў.

Масква замест таго, каб рабіць на падзеях у Малдове антырэкламу еўраінтэграцыі, не робіць ніякіх афіцыйных заяў. Маскоўскі публіцыст Сяргей Казлоўскі звязвае гэта з агульнай сітуацыяй. «Узнікненне праэрасійскага ўрада ў Кішынёве азначае для Крамля актуалізацыю праблемы з Прыднястроўскай Рэспублікай, а таксама вельмі недарэчныя ў кантэксце Мінскага працэсу хваляванні ў Адэскай вобласці Украіны. Кінуць новы ўрад на волю лёсу — значыць прызнаць уласную слабасць. А на падтрымку хай і невялікай рэспублікі спатрэбяцца фінансавыя рэсурсы, якіх пуцінская Расія больш не мае», — піша ён. Пра асцярожную пазіцыю Крамля сведчаць і заявы лідараў прарасійскай апазіцыі, якія выступаюць за баланс уплываў Захаду і Усходу.

Такім чынам, ад працягу супрацоўніцтва з Еўропай Малдове нікуды не падзецца. Праўда, рэабілітавацца ў вачах еўрапейцаў будзе цяжка. «Цяпер Малдове будзе цяжэй абзавесціся крэдытам даверу ад Еўрасаюза. Умовы апынуцца больш жорсткімі, бо еўрапартнёры расчараваныя цяперашняй уладай. Гэта дрэнна для іміджу РМ у ЕС, і для іміджу ЕС у РМ, бо, атрымліваецца, еўрапейцы падтрымалі карупцыянераў, якія знаходзяцца ў руля краіны. Давер можа быць аднолены, калі ЕС убачыць рэальныя змены і барацьбу з карупцыяй», — піша выданне noi.md. Праўда, каб змагацца з карупцыяй, патрэбна хоць нейкая стабілізацыя. Пакуль Малдову штармиць. Сітуацыя настолькі непрадказальная, што нават сур'ёзныя СМІ дазваляюць сабе спекуляваць наконт уводу ў Кішынёў румынскага спецназа, які здолее неяк лакалізаваць стыхію вуліцы.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Айша Кадафі



Дачка Муамара Кадафі ўпершыню з лістапада 2011 года з'явілася на публіцы і звярнулася з заклікам да лівійцаў. Як генерал-лейтэнант лівійскай арміі, яна паведаміла пра адданасць справе свайго бацькі і заклікала лівійцаў «прачнуцца» для заваёвы перамогі, каб «вярнуць Джамахірыю да ўлады». Айша Кадафі абяцае ў бліжэйшыя месяцы сфармаваць «падпольны ўрад» з удзелам «вядомых лівійцаў», адданых Кадафі, які будзе дзейнічаць праз давераных асоб як унутры Лівіі, так і за яе межамі. Пра лівійцаў яна казала як пра «сваіх дзяцей», а сябе параўнала з «маці». Айша, якую раней за светлыя валасы называлі «Клаўдыя Шыфер Паўночнай Афрыкі», таксама заклікала жаўнераў Лівіі прынесці ёй прысягу як галоўнакамандуючаму «дзеля аднаўлення краіны». Пакуль не зразумела, хто стаіць за Айшой, якая, дарэчы, пры жыцці Муамара Кадафі некаторымі лічылася галоўным кандыдатам у яго пераемнікі. Вядома толькі, што яна падчас вайны згубіла мужа і дзяцей і пасля збегла ў Алжыр, дзе нарадзіла дачку. Там яе сляды згубіліся. Вяртанне Айшы на палітычную авансцэну некаторыя каментатары звязваюць з чуткамі пра хуткую інтэрвенцыю войскаў NATO ў Лівію, якія павінны неяк чынам прыпыніць анархію ў краіне. Магчыма, дачка Кадафі намагаецца стаць сімвалам агульнанацыянальнага супраціву.

### Гурбангулы Бердымухамедаў



Прэзідэнт Туркменістана, як вядома, спецыяліст у шматлікіх сферах. Раней ён называў сябе і стаматолагам, і хірургам-анколагам, і кампазітарам, і паэтам, і спеваком, і музыкантам, і нават дыджэем. Ён напісаў некалькі кніг па пытаннях аховы здароўя, выдаў мастацкія творы пра свайго дзеда і бацьку. Ён лётае на самалётах, ездзіць на танку, добра страляе з аўтамата, рэгулярна выйграе ў забегах і аўтагонках... І вось новы накірунак дзейнасці лідара. 30 студзеня ў Ашхабадзе прайшла прэзентацыя кнігі «Крыніца мудрасці», аўтарам якой пазначаны Гурбангулы Бердымухамедаў. Кніга — зборнік туркменскай народнай мудрасці на розныя тэмы. Такім чынам, прэзідэнт Туркменістана прадэманстраваў яшчэ адзін свой талент — зараз у галіне філалогіі. Думаецца, гэта толькі першыя крокі новага філолага, паколькі прысутныя навукоўцы распавялі пра нейкія новыя задачы, якія перад імі ставіць улада. Ну а ў фінале імпрэзы, як і трэба было чакаць, адбыўся канцэрт з удзелам майстроў культуры і мастацтваў, якія, паводле дзяржаўных медыя, «выказалі падзяку прэзідэнту за высокі стваральны дух новай гістарычнай эпохі, квітнеючую Айчыну і шчаслівае жыццё туркменскага народа».

### Лавой Фінікум



Удзельнік атраду апалчэнцаў, якія напрыканцы снежня 2015-га захапілі федэральны ўчастак у штаце Арыгон, быў забіты падчас спробы арышту групы апалчэнцаў на адным з шасэ. Лавой адмовіўся здавацца. Раней ён не аднойчы казаў, што для яго лепш смерць, чым турэмнае зняволенне. Дасюль не зразумелыя падрабязнасці трагедыі, аднак некаторая частка жыхароў ЗША літаральна за тыдзень стварыла сапраўдны культ асобы нябожчыка. У СМІ і сацыяльных сетках забітага называюць не інакш як «вялікі патрыёт». Правыя інтэрнэт-форумы перапоўненыя каментарамі накшталт: «Лавой пакінуў нас, але яго ахвяра заўсёды будзе з тымі, хто любіць свабоду. Вы не можаце перамагчы нас. Наша кроў — гэта як насенне». Пашыраецца версія пра тое, што Лавой быў забіты па адмысловых прычынах, паколькі ён, калі меркаваць па відэазакадрах, быў без зброі. Для тых, хто ведае біяграфію Лавоя, такія заявы будуць сюрпрызам. Яго патрыятызм заключаецца ў судовых спрэчках з федэральнай адміністрацыяй з-за кавалку зямлі, якую Лавой лічыў сваёй. У любым выпадку, амерыканскія СМІ баяцца, што смерць у Арыгоне можа натхніць кансерватараў на радыкальныя акцыі. «Рух атрымаў пакутніка... Цяпер яны лічаць, што маюць абгрунтаванне і апраўданне для крайніх мераў», — піша «Washington Post». Праблема пагаршаецца таксама праз тое, што акупацыя ў Арыгоне працягваецца, і яе ўдзельнікі пры наступнай спробе разгону могуць ужыць зброю.



# Успаміны. Першыя самастойныя крокі

Арсень ЛІС

**Няўзнак апынуўся перад самастойнай дарогай. Схільнасць да педагагічнай працы, якая ў вопыце Коласава Лабановіча ўзнікла на золку юнацтва, за ўніверсітэцкую пару забылася.**

Праца ў бібліятэчнай цішы, што была ля гасцініцы «Беларусь», пры стадыёне, кіравала да роздуму, навуковых заняткаў. Універсітэт наогул захапіў прагай пазнання праз кнігу, перыёдыку, тым больш цяпер ведаў, дзе што можна было адшукаць. Рашуча паспрабаваў застацца ў сталіцы. Тым болей, што нечакана адкрылася вакансія ў аспірантуры АН БССР па спецыяльнасці «фалькларыстыка». І здаў быў уступны экзамен, мінуўшы бар'ер з замежнай мовай, дзякуючы веданню паэзіі Генрыха Гейнэ. Аднак новы закон аб неабходнасці 2-гадовага вытворчага стажу перакрэсліў паспяхова здадзеныя экзамены. Упярэдадзень 1957 года мусіў выбрацца на Дзісеншчыну, у мястэчка Шаркоўшчына. Праўда, толькі на паўгода, але з цікавасцю пазнаёміўся з жыццём педагагічнай глыбінкі.

У Мінск вярнуўся дзесь у ліпені 1957-га і адразу трапіў на працу ў Белдзяржвыдавецтва, у рэдакцыю «Мастацкай літаратуры», дзе кіраваў добры, шляхотны Мікола Татур, вядомы як перакладчык з польскай мовы. Галоўным рэдактарам быў абачлівы Янка Казека. У камандзе рупіліся Вольга Крайко, жанчына з досведам нямецкага канцлагера, куды трапіла з-за мужа-падпольшчыка, арыштаванага Смаленскім СД, у якім, казала, заўзята працавалі ў тым ліку і былыя энкавэдзісты, не менш лютыя за гітлераўцаў. Працавала з намі і Лідзія Арабей, аўтарка першых паважных кніг пра Алаізу Пашкевіч-Цётку. Ды яшчэ са старэйшых — Раман Ярохін, былы франтавік, родам з Сібіры, і мінчанін Леў Салавей. З маладзейшых былі Іван Пташнікаў, які ад першых публікацый заявіў пра сябе як аб перспектыўным празаіку, Валодзя Дамашэвіч, мужны і паслядоўны змагар за беларускую мову, кожны раз казаў пра яе ў вочы ворагам нашым, ахоўнікам рэжыму, і маладзейшы Ванкарэм Нікіфаровіч, у асноўным перакладчык з балгарскай мовы.

У «Мастацкай літаратуры» ўпершыню непасрэдна пабачыў і пачуў Пятра Глебку, Кандрата Крапіву, Івана Шамякіна. Глебка прынёс прадмову для першага пасля рэабілітацыі выдання паэзіі Уладзіміра Дубоўкі. Былі жывыя класікі і на абмеркаванні праблемных выданняў. Звярнуў увагу, што часам аглядаліся і на мяне, маладзёна, які сядзеў у асноўным, агульным пакоі, адразу ля ўваходу. Аднойчы пры зборцы старэйшых пісьменнікаў І. Шамякін загаварыў пра тое, што Кёнігсберг трэба было аддаць беларусам — мелі б выхад да мора. Запытальна глянуў на прысутных, але падтрымкі не пачуў.



Падчас працы ў выдавецтве з літаратаркай Лідай Арабей (1958(9)г.)

Успомніўся тады яшчэ не асэнсаваны мной факт, калі заўсёды пэўны ў сабе, гучнагалосы марскі афіцэр, пісьменнік Аляксандр Міронаў выбухнуў раптам з гневам з-за таго, што, сядаючы за рабочы стол, не можа пазбавіцца самацэнзара. Нешта не выказаў у сваёй кніжцы «Караблі сыходзяць у акіян»?

І яшчэ сумны ўспамін з даўняга часу рэдактарства. Ледзь паднялася да нас на чацвёрты паверх зусім зняможаная 44-гадовая жонка таленавітага паэта Тодара Кляшторнага. Як жонка ворага народа, яна доўгі час не мела права вярнуцца ў Беларусь. У выгнанні адна падняла і выгадавала дзвюх дачок. Цяпер была зусім бязрадная.

Безумоўна, частыя візіты пісьменнікаў у рэдакцыю, тлум і гоман перашкаджалі маёй рэдактарскай працы, і ў канцы рабочага дня адчуваў сябе вельмі стомленым. Неяк І.П. Шамякін, спыніўшыся перад выхадам, спачувальна кінуў: «Засохнеш тут, хлапец!».

Над усімі ўспамінамі таго часу дамінаваў песенны дуэт пісьменнікаў Рыгора Бярозкіна і Янкі Скрыгана. «Будь проклята ты, Колыма, что названа дивной планетой». Гэтыя словы з песні запомніліся ад першага разу. Таленавіта, што называецца, з глыбіні натуры савецкага зэка вырвалася песня. Гучала натуральна, забойча.



У Маладзечне з татам і сябрамі. Злева направа: Алесь Траяноўскі, Валодзя Сарока, Сяргей Ліс (тата), Арсень Ліс (1955(6)г.)



Людвіка Сівіцкая (Зоська Верас), у Варшаве, 1914 г.

З канца 1959-га — я нарэшце ў аспірантуры пры навастворным Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР, перспектыўнай навуковай установе, кіраванай паэтам і навукоўцам Пятром Глебкам. Сам абіраю тэму дысертацыі, якую ўхваляе кіраўнік аддзела фалькларыстыкі прафесар Іван Гутараў. Тэма дысертацыі прысвячалася народна-паэтычнай творчасці ў кантэксце культурна-грамадскага жыцця Заходняй Беларусі 1921–1939 гадоў. Выбар даследавання ў многім быў абумоўлены гісторыяй беларускага нацыянальна-адраджэнскага руху 1920–1930-х гадоў, досведам родных і блізкіх як удзельнікаў супраціву і нацыянальна-вызваленчага змагання. Матэрыял збіраў у архівах і бібліятэцы АН Літоўскай ССР і праз асабістае апытанне былых падпольшчыкаў КПЗБ і БСР Грамады, якіх застаў яшчэ жывымі, пры добрай памяці.

Калі пасля заканчэння аспірантуры зноў трапіў у Віленскія архівы і акадэмічную бібліятэку, адкрыў для сябе магутны, захапляльны мацярык беларушчыны, унікальную беларускую дэмакратычную перыёдыку 20-х гадоў мінулага стагоддзя, наглядна адчуў працэс станаўлення беларускай нацыі ў яе годным супраціве польскай акупацыі, асіміляцыі і натуральным развіцці дзеля дасягнення незалежнасці як рэальнай магчымасці нацыянальнай свабоды і самарэалізацыі да ўзроўню еўрапейскіх нацый.




Арсень Ліс з універсітэцкімі сябрамі (трэці справа) 195(4)5 год

Адчуў Вільню як культурную і палітычную сталіцу актыўнай, дзейснай ад пачатку ХХ стагоддзя Беларусі. Пачаў з наведвання месца пакарання царскімі сатрапамі першага беларускага рэвалюцыйнага дэмакрата і нацыянальнага героя Кастуся Каліноўскага. Пазнаёміўся з мастаком, адным са стваральнікаў беларускай выяўленча-мастацкай школы Пётрам Сергіевічам і слаўнай беларускай культурна-грамадскай дзеячкай, якая праз усё ХХ стагоддзе духоўна і маральна лучыла некалькі пакаленняў беларусаў, Людвікай Антонаўнай Войцік ды яшчэ з некалькімі былымі беларускімі актывістамі, культурна-грамадскімі дзеячамі, асветнікамі, якім пашчасціла вярнуцца пасля дзвюх хваляў пасляваенных рэпрэсій. Сярод іх спаралізаваны пасля вяртання з савецкага канцлагера Станіслаў Станкевіч — Станкевіч-кнігар, дзеяч БХД Адольф Клімовіч, былы рэдактар заходнебеларускага навукова-мастацкага часопіса «Калоссе» Янка Шутовіч, які прынёс мне на заказ «Кароткую гісторыю Беларусі» Усевалада Ігнатоўскага, «Геаграфію Беларусі» Аркадзя Смоліча і «Беларускую граматыку для школ» Браніслава Тарашкевіча, узятыя ва ўдавы паэта, мастака, аўтара фотаальбома аб падзеях Першай сусветнай вайны Уладзіслава Паўлюкоўскага (Улада Ініцкага), вязня польскага ды савецкага астрогаў.

Акунанне ў духоўную атмасферу даваеннай Вільні, у якой дзейнічалі выдатны асветны цэнтр Віленская беларуская гімназія (1919–1939), Інстытут беларускай гаспадаркі і культуры, існавала магутная шматгалосая беларуская прэса, моцная сваёй зваротнай сувяззю з народам, працавала мнагатысячнае Таварыства беларускай школы і аўтарытэтны ва ўсіх рознанацыянальных асяродках Вільні Беларускі хор Рыгора Шырмы, — усё гэта давала мне рэальны творчы стымул, рушыла наперад.

Шчасліва спазнаў публіцыстычную спадчыну беларускіх паслоў у сойм Другой Рэчы Паспалітай, быў паланёны графікай мастака Язэпа Драздовіча, збольшага пазнаёміўся з эпапеяй БСР Грамады, са справамі Віленскага акруговага суда, праз які праходзілі прыхільнікі і БНР і БССР.

Сядзеў у камандзіроўках у Вільні месяцамі і, вядома, цяжка было абняць неабдымнае. На жаль, не ўсё ўведанае, здабытае там здолеў данесці публічна да суайчыннікаў. На гэта проста мала аднаго жыцця.

Паралельна ўдаваўся ў разведвальныя падарожжы па Беларусі. У Баранавічах параілі зазірнуць у Горадню да Браніслава Ржэўскага, маўляў, можа многа расказаць пра літаратурную і народна-паэтычную творчасць Заходняй Беларусі. Сам ведаў, што Ржэўскі абараніў дысертацыю пра творчасць Максіма Танка. Але ў Гародні пазнаёміўся я перш-наперш з кампазітарам Аляксандрам Шыдлоўскім, дырэктарам Дома народнай творчасці, пачуў ад яго згадкі пра Алеся Салагуба, з якім як зямляк-смаргонец Шыдлоўскі быў знаёмы яшчэ з 1920-х гадоў. Таксама ў Горадні ўпершыню сустрэў мастака Лявона Баразну. Ён збіраў матэрыялы па выяўленчай народнай беларускай культуры, выконваў афіцыйныя заказы, пажаліўся на іх казённы змест. Разам схадзілі на магілу паэта Міхася Васілька, паклалі кветкі. Нарэшце выправіўся да Ржэўскага. Амаль увесь час майго знаходжання ў гэтага чалавека за акном чуўся заядлы брэх сабакі, быццам нехта чужы не даваў ёй супакою. Назаўтра, куды б я ні скіраваўся, мяне неадвязна суправаджаў цыбаты дзяцюк, якога пазней змяніў віравокі стары. Што ж да наведанага мною Ржэўскага, то быў гэты колішні партызан пасля мардоўскіх лагераў вельмі прыгнечаны. А паплаціўся ён за свае адкрытыя лісты ў ЦК КПб Беларусі ў абарону роднай мовы. Для падтрымання духу падараваў разгубленаму навукоўцу зборнікі Уладзіміра Караткевіча «Матчына душа» і «Вячэрнія ветразі». Спадзяваўся засведчыць перад старэйшымі інтэлігентамі, што маладая беларуская паэзія на фоне звыклай афіцыйнай, смела ўмешваецца ў жыццё, узвышаецца сапраўднымі эстэтычнымі здабыткамі, робіць прарыў у будучыню, а гістарычная проза Караткевіча верне беларусам схаваную ад іх бліжэйшымі суседзямі багатую і мужную гісторыю беларускага народа.

Графіка «Стадолішча» Язэпа Драздовіча

З Горадні накіраваўся ў Мінск праз Слонім, Нясвіж. У Слоніме ўпершыню ўбачыў класічную яўрэйскую сінагогу, самавіты касцёл. Там жа адведаў старога інтэлігента, краязнаўца, музейшчыка, археолага з дзвюма вышэйшымі адукацыямі гуманітарнага профілю Язэпа Стамброўскага. Знакаміты сланімчанін, у мінулым палкоўнік царскай арміі, у 1917 годзе быў за гэта арыштаваны. Пры допыце камісар запытаўся ў яго, да якой партыі той належыць. Калі пачуў у адказ, што ні да якой, злосна працадзіў праз зубы: «Беспартыйная сволач!» Чакаць спагады не даводзілася. Але пашанцавала. Салдаты памяталі добрыя адносіны да іх з боку камандзіра палка Стамброўскага. Ноччу цішком, падагнаўшы тройку, адвезлі яго станцыі на тры ад Масквы, пасадзілі на цягнік, які рухаўся на захад, у Беларусь.

На свае немаладыя гады Стамброўскі выглядаў вельмі добра. Я спытаўся ў мудрага старога, у чым сакрэт яго такога захавання? Пачуў, што кожную жыццёвую прыкрасць трэба мінізаваць у сваёй свядомасці, а з кожнай станоўчай дробязі ўмець здабываць максімум радасці. Калі спытаў пра асабістую бібліятэку гаспадара, ён нечакана выказаў скептыцызм адносна асабістых кнігазбораў. Адвёўшы мяне ў суседні пакой, дзе проста на падлозе ляжалі гарой зваленыя кніг, сказаў мне выбраць любую на памяць.

У Слоніме таксама наведаў паэта Анатоля Іверса. Характэрна, расповед яго пра тутэйшыя падзеі ваеннага часу суадносна таго, што я чуў пра іх ад яго земляка Новіка-Пеюна, здаўся мне больш праўдзівым. У Іверса я добра разжыўся на стос самавітага заходнебеларускага выдання, органа ТБШ «Беларускі летапіс».

На Нясвіжчыне завітаў да былога вязня польскіх астрогаў Лукаша Капыткі. З увагі на не знаёмага яму маладзёна, былы дасведчаны падпольшчык асцярожненька, спасылаючыся нібы на нейкага старога дзеда, выдаў мне сваю думку наконт таго, калі беларусы могуць адстаяць сябе і сваё ад няпрошаных гасцей — менавіта, калі апрануць уласны вайсковы мундзір.

Вокладка часопіса «Беларускі летапіс» з Рыгорам Шырмам (1939 г.)

«Насуперак Стыхіі» Пятра Сергіевіча

Вільні я не забываўся і пасля працы ў яе архівах ды ў 21-м беларускім фондзе бібліятэкі АН Літвы. Бываючы ў старажытнай нашай сталіцы ні разу не мінаў найстарэйшай нашай культурна-асветніцкай працаўніцы Людвікі Сівіцкай, знанай Зоські Верас. Жыла яна ў дамку, пабудаваным яе другім мужам Антонам Войцікам, за Вільняй у ляску на Панарскіх гарах. Даглядаў маці, якая была ўжо ў паважаным веку, яе сын Антон ад першага мужа Фабіяна Шантыра, публіцыста, наркома замежных спраў першага ўрада БССР, узначаленага А. Чарвяковым, расстралянага А. Мясніковым у 1920 годзе. Была ў Зоські Верас яшчэ і дачка ад шлюбу з Войцікам Галіна, вядомая аўтарка некалькіх брашур аб беларускіх дзеячах, напісаных сумесна з мужам Лявонам Луцкевічам, сынам славутага нашаніўца і дзеяча БНР Антона Луцкевіча.

У першае сваё знаёмства з Людвікай Антонаўнай даведаўся аб пачатках беларускага руху ХХ стагоддзя, яе ўдзеле ў гарадзенскім гуртку беларускай моладзі, працы ў Камітэце дапамогі ахвярам вайны ў Мінску ў 1915–1923 гадоў, у якім дзейсна ўдзельнічалі Аляксандр Уласаў, Аркадзь Смоліч, Уладзіслаў Галубок, Змітрок Бядуля, Ядвігін Ш., Усевалад Фальскі ды юрыст Чавусаў. Рак-Міхайлоўскі, актыўны на з'ездах беларускіх вайскоўцаў, на ўсебеларускім з'ездзе ў 1917 годзе, называў Зоську Верас, з увагі на яе паходжанне з сям'і афіцэра расійскай арміі, «ваеннай костачкай». Дачуўшыся, што Людвіка Антонаўна ў мінскі перыяд свайго жыцця сустракалася з Максімам Багдановічам, Аркадзем Смолічам, Уладзіславам Галубком, а ў 1920-я гады працавала ў рэдакцыях віленскіх беларускіх газет разам з Антонам Луцкевічам і Уладзімірам Самойлам, я адразу стаў намаўляць яе пісаць успаміны.

**Фота з уласнага архіву Арсеня Ліса**


Фота www.zbsb.org

# Пінская шляхта ў Швецыі

**Згуртаванне беларусаў у Стакгольме святкавала Каляды новай працай тэатральнага гуртка — урыўкамі з «Пінскай шляхты» Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча.**

Амаль год таму тэатральны гурток «Беларусаў Швецыі» прадставіў свой самы першы спектакль. Творчыя актывісты суполкі вырашылі на гэтым не спыняцца і падрыхтавалі новую пастаноўку — вытрымкі з «Пінскай шляхты» Дуніна-Марцінкевіча, паведамляе Згуртаванне беларусаў свету.

П'еса апавядае пра часы, калі, пасля ўваходу беларускіх зямель у склад Расійскай імперыі, мясцовую (у прыватнасці, палескую) шляхту пачалі масава пераводзіць у вольных сялян, і, каб пазбегнуць гэтага, ім трэба было даказаць прыналежнасць да высакароднага саслоўя.

Сярод складу актораў былі як тыя, хто граў у мінулай п'есе, напрыклад, Андрэй Катлярчук (шляхціч Ціхон Пратасавіцкі), Сяргей Андросенка (шляхціч Іван Цюхай-Ліпскі), Галіна Краснянская (скарбнік чыноўніка Кручкова). Ролю чыноўніка Расійскай імперыі, які прыехаў на разборкі на Піншчыну, выканаў Павал Галушка, а яго дзясяцкага — Аляксей Кулік.

Закаханых дзяцей шляхцічаў, шлюб якіх апынуўся пад пагрозай з-за сваркі бацькоў, сыгралі Ірына Азаранка і Дзмітры Сялюк. Старога шляхціча Харытона Куторгу, які, усцешыўшыся пасадам і грашыма Ціхона Пратасавіцкага, заляцаўся да яго дачкі-падлетка, сыграў старшыня суполкі «Беларусаў Швецыі» Алекс Мельнікаў.

Пасля тэатру згуртаванне ладзіла, хоць і са спазненнем, традыцыйныя Каляды для дзяцей: Чараўнік і Снегавік бавілі гульнямі, Дзед Мароз і Снягурка — падарункамі, а запрошаныя госці — прыгожымі танцамі. Прыемна, што ў гэты раз «Беларусы Швецыі» аб'ядналі на прыгожым зімовым святе не толькі беларусаў — сярод наведвальнікаў былі і нашыя сябры з украінскай і рускай суполак.

**Паводле zbsb.org**

# Барды захапілі Beer&Wine

Уладзіслаў РУБАНАЎ

**У бары «Beer and Wine» прайшоў першы ў Мінску канцэрт Стася Сілкі з альбомам «Песні для глуханямых». Маладога наваполацкага музыку прыйшлі падтрымаць дуэт «Хмарка на траве» і Алесь Дзянісаў.**


Фота www.novychas.by
Хмарка на траве

Уладальнік гран-пры «Бардаўскай восені» дуэт «Хмарка на траве» скарыў сваёй шчырасцю — часам пазітыўнай, часам з налётам лёгкага суму. Кранае штосьці глыбока ўсярэдзіне, штосьці далёкае з дзяцінства, штосьці з «віна з дзьмухаўцоў».

Удзельнік гуртоў «Dzieciuki», «Людзі на балоце», «Кальян» Алесь Дзянісаў не абмяжоўваецца якімсьці адным напрамкам у творчасці. Публіка на канцэрце з аднолькавым энтузіязмам патрабавала песню «Партызаны» з рэпертуару «Людзей на балоце» і кавер на Захара Мая «Танкі», перапеты «Дзецюкамі».

У «Дзецюкоў» хутка выходзіць новы альбом, які будзе гістарычным па агульным канцэпце. На 4 лютага, да дня нараджэння Тадэвуша Касцюшкі, запланаваны выпуск сінгла «Тадэвуш Касцюшка». А на 12 сакавіка ў іх запланаваны сумесны канцэрт з гуртом «Brutto» ў Беластоку.

На канцэрце Алесь Дзянісаў традыцыйна выконваў як свае песні, так і вершы розных паэтаў, напрыклад, Караткевіча, накладзеных на сваю музыку.

І, нарэшце, герой гэтай імпрэзы — Стась Сілка, які ўпершыню выступаў у Мінску.


Стась Сілка

«Вартыя павагі спробы маладых выканаўцаў пісаць па-беларуску, нават калі гэта крыва перакладзена з рускай, выпакутавана са слоўнікам, нацягнута і адзінкава, прыблізна і кан'юнктурна ад таго, што дужа хочацца выступіць на якім-небудзь паважаным фэсце ці паўдзельнічаць у конкурсе. Але гэта не пра Сілку. Ягонае беларускае слова — пражытае, прадуманае і цалкам натуральнае. Ён, зразумела, не вялікі паэт. Ён якраз тэкставік, яго словы выдатна кладуцца пад простыя акорды і трапляюць у самую душу. І маладых людзей, якія з такой далікатнасцю і павагаю працуюць са словам у музыцы, трэба яшчэ дабра пашукаць», — кажа пра Сілку кіраўнік Tuzin.fm Сяргей Будкін.

Сам Сілка да сваёй творчасці ставіцца з пэўнай іроніяй — гэта было добра бачна на канцэрце. Але з такой жа відавочнай цеплынёй і падзякай ён ставіцца і да людзей, якія яго слухаюць. Вельмі адчувальна, што Стась Сілка пачынаў сваю творчасць з кватэрнікаў, бо калі ён грае, то стварае тую самую нязмушаную атмасферу, якая пануе падчас выступу ў коле сяброў на кухні.

КВИТАНЦИЯ

ИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

| | | | |
|---|---|---|---|
| Счет получателя | 3012741108019 | Лицевой счет | Код 739 |
| УНП* | 190790926 | | |

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | |
| | | | | |

Плательщик

Пеня ______

Всего ______

Кассир

# Шаноўныя чытачы!

**«Новы Час» немагчыма купіць у шапіках РУП «Белсаюздрук». Няма нас і ў падпісным каталогу РУП «Белпошта».**

Але падпісацца на «Новы Час» можна. Для гэтага трэба: 1. Пералічыць грошы на наш рахунак; 2. Накіраваць копію плацёжнага дакумента на адрас рэдакцыі (220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234) ці на электронную пошту рэдакцыі (novychas@gmail.com). Альбо патэлефанававаць у рэдакцыю і паведаміць адрас дастаўкі (+375 29 9625143; +375 29 7518143; Арцём)

**Нашы рэквізіты:** рахунак 3012741108019 у Дырэкцыі ААТ «Белінвестбанка», па г. Мінску і Мінскай вобл. код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11.

**Падпісацца таксама можна ў нашым офісе, а таксама ў нашых прадстаўнікоў:**
**Магілёў:** (8 029) 722 61 69, Міхась
**Слуцк:** (8 029) 364 42 60, Зінаіда
**Гомель:** (8 029) 697 82 75, Аляксандр

З **1 студзеня 2016** года кошт аднаго месяца падпіскі — **32 000** руб., **квартала — 90 000 рублёў.**

**ШЧЫРЫ ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА РАЗУМЕННЕ І ПАДТРЫМКУ!**

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
**Колб Аксана Мікалаеўна**
Стыль-рэдактар
**Пяроўская Святлана Віктараўна**
**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17268-52-81 +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 114

Падпісана да друку 5. 02.2016. 8.00.
Наклад 5000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.